прозу! І мусіць жа яшчэ маладая… Сенсацыя! Так часам, невядома адкуль з'яўляецца „слава"… „Шляхі-дарогі" мае ў тыя 1948-1949-я гады былі і праўда не з самых зарослых пустазеллем і чартапалохам „літаратурных дарог"…

А да гэтага ў мяне была яшчэ маленькая аповесць „У прастор жыцця" (якая „арыгінальнасць" назвы – ды пасля Якуба Коласа!). І за яе ў 1947 годзе мяне прынялі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў. Так што Лёня Галубовіч не быў „гістарычна" дакладны.Не скажу, каб ад усяго таго мяне апанавала зорная хвароба. Але ж усё роўна было прыемна. Хоць і дзіўна.

А Ганьку нарадзілі мне мае ўласныя дзеці – раскажы, як ты была малая. Бясконца мучылі яны мяне, і я расказвала. І неяк зусім няўзнак напісалася апавяданне „Радасці жыцця". Тады мне ўжо сапраўды не стала спакою. „Друкаваныя літары" пра Ганьку надалі маім дзецям як быццам уладу нада мною… „Напішы, што было далей!!!"

*І Вы пісалі?*

– Так. І я пісала, і я не магла развітацца з Ганькай, пакуль не напісала чатыры кнігі пра яе лёс.

*А ці пастаўлены па Вашай тэтралогіі мастацкі фільм? А можа і ёсць, ды я не ведаю?*

– Не, мастацкага фільма не было. Быў тэлеспектакль, разыграны акцёрамі. Усё як мае быць… Але лепей бы яго не было. Атрымалася такая шэрая сумота, што я пазбягала страчацца са знаёмымі: а раптам глядзелі-бачылі. Дзякуй Богу, ён не доўга „ўпрыгожваў" тэлеэкран. Ды каб мяне забілі – сама б другі раз не зірнула б у яго бок! Сорам. Жах.

Затое беларускае радыё „ўзнесла" Ганьку! 8 частак радыёспектакля, пастаўленага Таццянай Аляксеевай. Ігралі (яшчэ ўсе былі жывыя!) лепшыя акцёры-купалаўцы залатога веку. Ганьку іграла тады яшчэ зусім маладая актрыса Тэатра юнага гледача Вера Кавалерава.



**Алена Васілевіч (злева крайняя) з калектывам рэдакцыі часопіса „Работніца і сялянка", 1950-я гады**

Усіх не злічыць. І за гэта я дзякую ім і сёння. Ганька гучыць штогод, і запіс захоўваецца на радыё ў залатым фондзе… Ну, то і хопіць пра яе, Ганьку.

*Вы неяк сказалі, што ад літаратуры не ведаеце пакут. Але літаратура 1960-х-1980-х гадоў адрозніваецца ад літаратуры сённяшніх дзён і дабрабыт пісьменнікаў адрозніваецца сёння ад дабрабыту пісьменнікаў другой паловы XX стагоддзя. Ці не так?*

– Не, пакуты я ведаю ад жыцця, а не ад літаратуры. Проста не пакутую тады, калі мне „не пішацца" (як у сапраўдных „стараннікаў"). Нават, мусіць, сам Леў Талстой не пакутаваў, калі „не пісалася", а шыў боты, сеяў і касіў… „Ні дня без радка" – гэта не пра мяне сказана. Што належыць дабрабыту, дык ён залежыць не ад часоў – ад умельства, спрыту яго наладжваць. Ёсць гэты талент – будзе і дабрабыт. А няма – дык і дабрабыту не будзе. Будзе тое, што ёсць.

*Алена Сямёнаўна, Вы 22 гады адпрацавалі ў цікавым(!) часопісе „Работніца і сялянка" (цяпер, здаецца, гэта часопіс „Алеся"), я не чытаю яго. А раней чытаў. Раней „Работніцу і сялянку" выпісвалі амаль у кожны беларускі дом. Сёння – не ведаю. Што Вам памятаецца з таго часу вясёлае, добрае, сумнае?*

– „Работніца і сялянка"! О, гэта быў самы ўдзячны, самы жыццядзейны і самы жыццядайны час. Я была ў рэдакцыі самая маладая, яшчэ не стомленая ні камандзіроўкамі, абавязковым штомесяц „прыгонам"напісаць і здаць гатовы нарыс, артыкул, фельетон, рэцэнзію, апавяданне, дыялог з героем гутаркі (У набор! У набор!) Калектыў быў добразычлівы, дружны. Перад рэдакцыяй і журналістамі лёгка адчыняліся нават самыя высокія службовыя дзверы. Ніводнае пісьмо чытачоў не заставалася без адказу, ніводная скарга – без увагі і дапамогі. Я ганарылася сваёй рэдакцыяй, сваёй працай і марыла, каб і дзеці мае былі журналістамі. Яны абралі іншую – кожны сваю – дарогу...

Верай і праўдай паслужыла я любай „Работніцы і сялянцы" 22 гады. І сёння ўспамінаю, як родную сястру. На змену маёй „старой сястры" прыйшла маладая „Алеся". Яна ўжо зусім, зусім другая, іншая, з іншага ўжо свету. У яе свая, ужо сённяшняя харызма…

*Адну са сваіх кніг Вы назвалі „Люблю, хвалююся – жыву". Каго любіце, што хвалюе і чым жывяце сёння?*

– „Люблю, хвалююся – жыву" – так, была ў мяне такая кніга (яна і ёсць…). Невялікім выдавецкім памерам, але – для мяне асабіста – з вельмі вялікім эмацыянальным аб-



**Каля помніка Максіму Багдановічу ў Місхоры.Мастак Яўген Ганкін, паэты Іосіф Васілеўскі, Мікола Аўрамчык, Алена Васілевіч, Лідзія Арабей. 1974 г.**

сягам. Вядома, з часам, які мінуў з той пары, абсяг гэты звузіўся, на жаль… Намнога звузіўся… Больш за ўсё хвалюе мяне сёння лёс самых блізкіх мне людзей…

*Ці ёсць сёння ў Вас сябры, сяброўкі? Аб чым гутарыце пры сустрэчах?*

– Сябры і сяброўкі… У маім ужо „дапатопным” веку – гэта ўжо найбольш толькі ўспаміны з уздыхамі.

*Все ушли, что любили,*
*что ждали,*
*Утонули за дымкой печали…*

Ну, а тыя, хто з маладзейшых, яны таксама ўжо часцей ходзяць па дактарах, па бальніцах і аптэках... Што ўспамінаем, пра што гутарым? Усё ж яшчэ чытаем, таксама дзякаваць Богу, кнігі. Што-што, а бібліятэкі (уласныя!) маем мы амаль усе. Так што ўцехі – кніжнай – хопіць нам усім „на всю оставшуюся жизнь”. Выпісваем жа, хто якую газету. Вось толькі наша бяздарнае беларускае тэлебачанне – вочы б яго не бачылі! – яго хто глядзіць, а хто – не.

*Які лёс, на Вашу думку, чакае Беларусь, беларускае Слова, беларускую Мову ў гэтым XXI стагоддзі?*

– У Беларусі дзеці амаль не вучацца ў беларускіх школах. Вось ужо колькі гадоў беларускія школы скарачаюцца, зачыняюцца… Няма вучняў? Няма выкладчыкаў? У лепшых выпадках застаюцца беларускія „класы” ў школах – абсалютна з навучаннем рускамоўным. А то і зусім, як у абласным Магілёве, вучыцца ў школе (зразумела, рускамоўнай) адна ўсяго дзяўчынка! Няцяжка ўявіць сабе гэтае навучанне і самаадчуванне яе самой і яе бацькоў, якія не жадаюць „зразумець”, чаму іх дзіця не мае магчымасці (права) у сваёй роднай дзяржаве вучыцца на роднай мове? У нашых універсітэтах студэнты таксама мала чуюць беларускую мову і рэдка ёю карыстаюцца. Заезджыя людзі дзівяцца: чаму ў Мінску на вуліцах не пачуеш гаворкі па-беларуску? Усе гавораць на чужой мове.

А як цудоўна гучыць беларуская песня! Але наша „тэлескрынка” ды і радыё таксама наровяць „адкормліваць” нас рускамоўнай папсою і замшэлымі шлягерамі. Што ўжо казаць пра наша „верхавенства”? (У нас же законом утверждено двуязычие? Так зачем же ещё ломать язык?). За амаль 20 гадоў свае прэзідэнцкае ўлады сам прэзідэнт рэдкія разы выступаў перад сваім народам з прамовамі на роднай мове. Праўда, калі падумаць, прэзідэнт жа нарадзіўся і гадаваўся ў беларускай вёсцы. Вучыўся ў беларускай школе. Але адразу ж, апынуўшыся за цяжкімі дзяржаўнымі дзвярыма, перасеў у чужыя сані.

Жыве Беларусь! Гэтыя два дарагія словы мы з аднолькавым пачуццём вялікай Надзеі паўтараем з клічнікам і без клічніка. Мы паўтараем іх з пачуццём непагаснай Веры. На святую беларускую зямлю прыйдзе новы надзейны і верны Сейбіт засяваць яе. Разумным. Добрым. Вечным.

*Што яшчэ не напісалася, аб чым усё жыццё марылі напісаць?*

– Сёлета 25 верасня шырока і вельмі годна адзначалася 100-годдзе з дня нараджэння выдатнага беларускага паэта Сяргея Грахоўскага. Сама я, на жаль, не была на гэтай імпрэзе (быў мой сын). Па тэлефоне толькі прачытала я напамяць даўнія ўжо вершы Паэта яго дачцэ Тані:

*Сцяжынка збягае з пагорка,*
*Унізе шуміць лістапад.*
*І крыўдна, і сумна, і горка,*
*Што ўжо не вярнуцца назад*
*У тое гарачае лета,*
*У водар духмяных суніц,*
*Дзе столькі гуло навальніц,*
*Дзе столькі яшчэ не дапета…*
***…** А мая ўласная „сцяжынка”?*
*А мае недапетыя старонкі?*
*Іх не будзе.*

Напэўна, таму, што на апошнюю, недапісаную маю кнігу („Памерла Ганька…”) ужо не хопіць сілы.

У нядобры дзень нядобра ўпала я (а „добра падаць” часта здараецца?) ужо каторы год не выходжу нават за дзверы ўласнай кватэры… І не пішу. Ёсць людзі, здольныя пры самых складанейшых абставінах заставацца дзейнымі: пісаць музыку, пісаць карціны, пісаць кнігі… Я – не здольная. Без жывога жыцця… А яшчэ – чытачы. Даўнія, самыя адданыя чытачы самых першых маіх кніжак – яны ўжо адышлі… У наступнай змены цяпер ужо часцей нагода шукаць лекі, чым шукаць новае чытанне – па кнігарнях і па бібліятэках. Новае „племя младое, незнакомое”? Дык маладым жа „продкі” зусім нецікавыя! Ні **як** яны і **чым** жылі, у **што** верылі, **што** пісалі, **што** пакінулі. У іх свой, ужо „свой час, свой век, свая эпоха”. Як, дарэчы, было гэтак і ў „продкаў”. І ў продкаў продкаў. І, мусіць, так і павінна быць. Павінна? Хоць „крыўдна і сумна, і горка, што ўжо не вярнуцца назад”. Але такая дыялектыка чалавечага быцця.

*Гутарыў*

**Сяргей Чыгрын**

# XX БАРДАЎСКАЯ ВОСЕНЬ
## 2013




Беласток. Алесь Камоцкі  фота Міхала Гэлера



Беласток. Белы сон  фота Міхала Гэлера



Бельск Падляшскі. Яўген Барышнікаў

фота Давіда Гайко



Беласток. ILO & FRIENDS

фота Міхала Гэлера




Шчыты.
Алесь Зайцаў

фота Давіда Гайко




Гайнаўка. Relikt

фота Давіда Гайко



Бельск Падляшскі. Зміцер Вайцюшкевіч

фота Давіда Гайко



# Календарыюм

## *Лістапад – гадоў таму*

**1025** – У 988 г. князь (каган) кіеўскі Уладзімір прыняў хрысьціянства з Візантыі. Хрысьціянская епархія ў крывіцкім Полацку была заснавана ў 992 г.

**995** – У 1018 г. каля Бярэсьця аб'яднаныя сілы польскага князя Баляслава Хробрага і тураўскага князя Сьвятаполка перамаглі ў бітве тагачаснага князя ноўгарадзкага Яраслава Мудрага.

**690** – Сталіцай Вялікага Княства Літоўскага ў 1323 г. стала Вільня, былы Крывы Горад або Крывіч–горад.

**555** – У 1458 г. Праваслаўная Царква ў Вялікім Княстве Літоўскім канчаткова вызвалілася ад Маскоўскай мітраполіі і непасрэдна падпарадкавалася канстанцінопальскаму патрыярхату.

**450** – У берасьцейскай друкарні у 1563 г. была надрукавана Біблія – адно з самых поўных і лепшых тагачасных выданьняў, вядомая як „Радзівілаўская Біблія".

**445** – У 1568 г. пачала дзейнасьць заблудаўская друкарня ў маёнтку Рыгора Хадкевіча, у якой друкаваліся кірылічныя кнігі, між іншым „Евангельле вучыцельнае" (1569) і „Псалтыр з Часасловам" (1570).

**390** – 12.11.1623 г. – бунт віцяблянаў супраць Берасьцейскай царкоўнай вуніі і забойства ўніяцкага архіепіскапа Ёзафата Кунцэвіча.

**190** – 12.11.1823 г. у Шыпілавічах Бабруйскага пав. нар. Павал Шпілеўскі, беларускі этнограф і публіцыст. Закончыў Пецябургскую Духоўную Акадэмію (1847). Настаўнічаў у Варшаве, з 1853 г. – у Пецярбурзе. Аўтар прац па этнаграфіі, беларускаму фальклёру і краязнаўству: „Беларускія народныя павер'і" (1846-1852), „Народныя прыказкі, з тлумачэньнем паходжаньня і значэньня іх" (1852), „Дасьледваньне пра ваўкалакаў" (1853), „Мазыршчына" (1859), „Беларускія прыказкі" (1853), „Падарожжа па Палесьсі і беларускім краі" (1853-1856, 1992). Памёр 29.10.1861 г.

**185** – 5 (17).11.1828 г. у Станькаве Стаўбцоўскага пав. нар. Эмэрык Гутэн-Чапскі, калекцыянер і нумізматык. Закончыў Маскоўскі ўнівэрсытэт, быў расейскім дзяржаўным дзеячам. У 1879-1894 гг. жыў у сваім родавым маёнтку ў Станькаве, дзе заснаваў музэй і багатую бібліятэку. Памёр 23.12.1896 (4.01.1897) г.

**145** – 1.11.1868 г. у Казьянах Шумілінскага раёна нар. Дзьмірый Даўгяла, гісторык і археоляг. Закончыў Пецярбургскую Духоўную Акадэмію (1894), з 1897 г. працаваў у архівах старажытных актаў у Віцебску і Вільні. З 1912 г. старшыня Віленскай Археаграфічнай Камісіі, з 1921 г. загадчык Магілёўскага архіва, з 1925 г. – супрацоўнік Інбелкульта, з 1929 г. – дырэктар бібліятэкі АН Беларусі, з 1937 г. – навуковы супрацоўнік Інстытуту Гісторыі АН Беларусі. Арыштаваны ў сьнежні 1937 г., у 1939 г. высланы ў Казахстан на 5 гадоў, дзе праўдападобна памёр у 1942 г.

**140** – 1.11.1873 г. у Крывуліне Цьвярской губ. нар. Іван Замоцін, літаратуразнавец. У 1897 г. закончыў Пецярбургскі Гісторыка–Філялягічны Інстытут. З 1922 г. працаваў прафэсарам Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў Менску, з 1931 г. – у Менскім Пэдагагічным Інстытуце. Быў членам ІБК і АН Беларусі. З яго інцыятывы і яго стараньнямі ў 1927-1928 гг. былі сабраны і выдадзены творы Максіма Багдановіча. У 1938 г. рэпрэсіраваны, асуджаны на 8 гадоў папраўча–працоўных лагероў. Памёр (або пакончыў жыцьцё самагубствам) 25.05.1942 г. у турэмнай бальніцы ў Горках.

**130** – 8.11.1883 г. у засьценку Калесьнікаў Дзісьненскага павету нар. Вацлаў Ластоўскі – выдатны грамадзка–палітычны дзеяч. З 1909 г. быў сакратаром „Нашай Нівы", у 1910 г. выдаў „Кароткую гісторыю Беларусі", падчас вайны выдаваў падручнікі. Быў адным са стваральнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі. З 1920 г. актыўна дзейнічаў у Коўне і Рызе (між іншым у 1924 г. выдаў „Падручны расійска–крыўскі (беларускі) слоўнік"). У 1927 г. пераехаў з Летувы ў БССР. У 1930 г. быў арыштаваны і высланы ў Саратаў, дзе працаваў загадчыкам

аддзела рэдкай кнігі і рукапісаў бібліятэкі Саратаўскага ўнівэрсытэта. У 1937 г. арыштаваны паўторна і расстраляны 23.01.1938 г.
**130** – 6.(18.)11.1883 г. у вёсцы Мікалаеўшчына каля Стаўбцоў нар. Язэп Лёсік (памёр у савецкай турме ў 1940 г.) – грамадзка–палітычны дзеяч, мовазнаўца, пісьменьнік, пэдагог. Вучыўся ў Маладзечанскай Настаўніцкай Сэмінарыі. З 1917 г. у Беларускай Сацыялістычнай Грамадзе, удзельнічаў у абвяшчэньні БНР у 1918 г., рэдагаваў газэты „Вольная Беларусь" (1917-1918), „Беларусь" (1920). У 20-ыя гады выкладаў беларускую мову ў Менску – у БДУ, у Пэдагагічным Тэхнікуме. Быў членам Інбелкульта і АН Беларусі. Напісаў м. ін.: „Практычную граматыку беларускае мовы" (1921), „Беларуская мова. Пачатковая граматыка", „Беларуская мова. Правапіс" (1924), „Сінтаксіс беларускае мовы" (1925), „Граматыка беларускае мовы. Фанэтыка" (1926), „Граматыка беларускае мовы. Марфалогія" (1927). У 1930 г. пазбаўлены быў званьня акадэміка, арыштаваны і сасланы. У 1938 г. арыштаваны паўторна. Памёр 1.04.1940 г. у турме ў Саратаве.
**125 –** 16.11.1888 г. у в. Шурычы, Ваўкавыскага павету нар. кс. Вінцэнт Гадлеўскі (арыштаваны гестапа 24.12.1942 г. і закатаваны) – каталіцкі сьвятар, грамадзкі дзеяч. Скончыў Віленскую Каталіцкую Сэмінарыю. З сакавіка 1917 г. член Беларускага Нацыянальнага Камітэту. Удзельнік Першага Усебеларускага Кангрэсу, член Рады БНР. Адзін з заснавальнікаў і лідэраў беларускай хадэцыі (БХД). Прасьледаваны й некалькі разоў зьняволены польскімі ўладамі. Да 1939 г. выдавец газэты „Беларускі Фронт". Зь верасьня 1941 г. галоўны школьны інспэктар пры Генэральным Камісарыяце Беларусі.
**120** – 16.11.1893 г. у Таргунах каля Докшыцаў нар. Леаніла Чарняўская, беларуская настаўніца і пісьменьніца, жонка Максіма Гарэцкага. Закончыла Марыінскае Вышэйшае Вучылішча ў Вільні. У 1911-1918 гг. працавала настаўніцай у Залесьсі на Дзісьненшчыне, у 1918 – 1923 гг. – у Віленскай Беларускай Гімназіі. З 1923 г. з мужам пераехала ў Менск, потым – у Горкі, у 1932 г – у Вятку. З 1947 г. жыла ў Ленінградзе, дзе памерла 26.09.1976 г. Яе найбольш вядомыя працы: „Дзяцінныя гульні" (1919), чытанка „Родны край" (1919), кнігі прозы: „Апавяданьні", „Валуй – камісар часоў Кераншчыны", „Падарожніца", „Бязьдзетуха" (1930), кнігі для дзяцей: „Варка"(1928), „Кот Знайдзён" (1929), „Андрэйка" (1930) і іншыя.
**120** – 17.11.1893 г. у Дзьвінску нар. Кастусь Езавітаў (памёр у менскай турме 23.05.1946 г.) – нацыянальна-грамадзкі дзеяч, публіцыст, настаўнік. Закончыў у 1916 г. Віцебскі Настаўніцкі Інстытут. З 1917 г. актыўна ўключыўся ў дзейнасьць па стварэньні беларускага войска. У лютым 1918 г. стаў камэндантам Менску й Менскай акругі, членам Рады БНР. З 1921 г. жыў у Рызе. Актыўна ўдзельнічаў у жыцьці беларускай грамадзкасьці Латвіі. Між іншым у 1923-1924 гг. быў дырэктарам Люцынскай Беларускай Гімназіі. Некалькі разоў арыштаваны латвійскімі ўладамі. У час нямецкай акупацыі ўзначаліў Беларускае Нацыянальнае Аб'яднаньне ў Рызе. Уваходзіў у склад БЦР. У красавіку 1945 г. затрыманы савецкімі войскамі ў Бэрліне.
**120** – 21.11.1893 г. у Менску нар. Уладыслаў Стшэмінскі, авангардны мастак. Закончыў Маскоўскі Кадэцкі Корпус, вучыўся ў Пецярбургскім Вышэйшым Ваенным Вучылішчы (1911-1914). У 1918-1919 гг. працаваў у Менску, у 1922 г. пераехаў у Вільню, з 1936 г. жыў у Вілейцы, дзе стварыў цыкл працаў „Заходняя Беларусь". З 1940 г. жыў у Лодзі, з 1945 г. выкладаў там у Дзяржаўнай Мастацкай Вышэйшай Школе. Памёр 25.12.1952 г.
**110** – 1.11.1903 г. у Шчакоцку каля Янава нар. Лукаш Бэндэ, літаратурны крытык. Закончыў Камуністычны Унівэрсытэт у Менску (1926), працаваў у Віцебскім Вэтэрынарным Інстытуце, у Інстытуце Мовы, Літаратуры і Мастацтва АН Беларусі (тады асуджаў многіх беларускіх пісьменьнікаў у нацыяналдэмакратызьме), з 1935 г. – у Ленінградзе. Памёр 23.12.1961 г.
**110** – 2.11.1903 г. у Варшаве памёр Адам Плуг (сапраўднае Антоні Пяткевіч), пісьменьнік і журналіст. (Пра А. Плуга больш глядзі ў календарыюме за мінулы месяц – з нагоды 190-ых угодкаў нараджэньня).
**110** – 11.11.1903 г. у Міры нар. Аляксандр Ільінскі, акцёр. Закончыў Беларускую Драматычную Студыю ў Маскве (1926), працаваў у Беларускім Дзяржаўным Тэатры ў Віцебску, выканаўца роляў, м.інш.: Далакона ў „Цары Максіміліяне", Несьцеркі ў „Несьцерцы" Віталя Вольскага, дзеда Талаша ў „У пушчах Палесься" Якуба Коласа, Кручкова ў „Пінскай шляхце" Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Памёр 18.03.1967 г.
**110** – 27.11.1903 г. у Сакоўцах каля Івацэвічаў нар. Піліп Пестрак, беларускі пісьменьнік, дзеяч КПЗБ. Публікаваўся з 1926 г. Першы зборнік вершаў „На варце" выдаў у 1940 г.. Пісаў таксама апавяданьні і раманы. У 1984-1986 гг. выйшаў збор яго твораў у 5 тамах. Памёр 22.08.1978 г.
**105** – 29.11.1908 у Крутым Беразе каля Несьвіжа нар. Козьма Чурыла, беларускі мастак. У 1936 г. закончыў мастацкі факультэт Віленьскага ўнівэрсытэта. Пасьля II сусьветнай вайны працаваў асыстэнтам графікі на мастацкім факультэце Торуньскага унівэрсытэта. Памёр 15.01.1951 г. у Гданьску, дзе і пахаваны на гарнізонным могільніку.
**95** – 9.11.1918 г. у Парыжы памёр Гіём Апалінэр (сапраўднае Кастравіцкі), францускі паэт, якога продкі паходзілі з Наваградчыны (нар. 26.08.1880 г. у Рыме). З 1899 г. жыў

у Парыжы, пачаў пісаць у 1901 г. На беларускую мову яго творы пераклала Эдзі Агняцьвет (зборнік „Зямны акіян”, 1973).
**90** – 28.11.1923 г. было заснавана беларускае літаратурнае аб’яднаньне „Маладняк”.
**75** – 10.11.1938 г. у Менску расстраляны Уладзімір Тэраўскі (нар. 11.11.1871 г. у Раманаве Слуцкага пав.), беларускі кампазытар і кіраўнік хору. Закончыў Слуцкае Духоўнае Вучылішча. Вучыўся ў Менскай Епархіяльнай Сэмінарыі. Жыў на Урале, дзе кіраваў хорамі чыгуначных рабочых. У 1901 г. вярнуўся ў Беларусь і працаваў настаўнікам і хормайстрам у народных вучылішчах Менска. Вёў хор пры Старажоўскай царкве. У 1914 г. заснаваў беларускі народны хор і ўключыўся актыўна ў беларускі нацыянальны рух. Выдаў сьпеўнікі: „Беларускі сьпеўнік з нотамі на тры галасы паводле народных мэлёдый” (1921), „Беларускі лірнік” (1922), „Вайсковы зборнік” (1926). Супрацоўнічаў з беларускім тэатрам, у 1920-1921 гг. быў хормайстрам Першага Беларускага Дзяржаўнага Тэатру. Арыштаваны ў верасьні 1921 г. і прыгавораны на 5 гадоў турмы. Супрацоўнічаў з Інбелкультам. У пачатку 30-ых гг. звольнены з працы ў тэатры. Другі раз арыштаваны ў 1938 г. Аўтар музыкі да „Ваяцкага маршу” Макара Краўцова, да п’ес „Купальле” Міхася Чарота, „Машэка”, „Каваль – ваявода”, „Кастусь Каліноўскі” Яўсьцігнея Міровіча.
**75** – 23.11.1938 г. расстраляны Мікола Красінскі (нар. у 1886 г. у Вілейцы), асьветны і царкоўны беларускі дзеяч. Працаваў у пачатку 20–ых гг. настаўнікам і інспэктарам Віленьскай Беларускай Гімназіі і Духоўнай Праваслаўнай Сэмінарыі. З 1925 г. быў супрацоўнікам Інстытуту Беларускай Культуры ў Менску. У 1930 г. арыштаваны і на 5 гадоў высланы ў Аханск у Расею. Паўторна арыштаваны ў 1938 г.
**75** – 29.11.1938 г. у Менску расстраляна Палута Бадунова (нар. у 1885 г. у Новабеліцы каля Гомеля), беларуская нацыянальная дзеячка. У 1917 г. закончыла гістарычна–літаратурныя курсы ў Пецярбурзе, дзеячка Беларускай Партыі Сацыялістаў–Рэвалюцыянераў, у складзе Рады БНР з 1919 г. У 1923-1925 гг. жыла ў Празе, пазьней у Беларусі – працавала настаўніцай у Гомелі. Арыштавана ў верасьні 1937 г.
**75** – 29.11.1938 г. расстраляны Браніслаў Тарашкевіч (нар. 20.01.1892 г. у Мацюлішках каля Лаварышак), беларускі нацыянальны і асьветны дзеяч, філёляг, аўтар „Беларускай граматыкі для школ” (1918). Закончыў Пецярбургскі ўнівэрсытэт (1916), быў адным з лідэраў Беларускай Сацыял–Дэмакратычнай Партыі. У 1922-1928 гг. дэпутат польскага Сойму, з 1925 г. старшыня Беларускай Сялянска–Работніцкай Грамады. Двойчы зьняволены польскімі ўладамі – у 1927 і 1931 гг. У турме пераклаў на беларускую мову „Пана Тадэвуша” Адама Міцкевіча і „Іліяду” Гамэра. З 1933 г. у СССР, працаваў у аграрным інстытуце ў Маскве. У 1937 г. арыштаваны.
**70** – 1.11.1943 г. у Казані памёр Глеб Бонч-Асмалоўскі (нар. 3.11.1890 г. у маёнтку Блонь Ігуменскага пав.), антраполяг і археоляг. Закончыў Менскае Камэрцыйнае Вучылішча і Петраградзкі ўнівэрсытэт (1923). Працаваў на катэдры антрапалёгіі Ленінградзкага ўнівэрсытэту, займаўся пошукамі палеалітычных паселішчаў на Гомельшчыне і Смаленшчыне. Першы ў СССР выявіў рэшткі выкапнёвага чалавека – нэандэртальца. У 1934 г. рэпрэсіраваны і сасланы на 3 гады ў Варкуту. У час вайны выкладаў у Казаньскім унівэрсытэце.
**70** – 13.11.1943 г. быў забіты ў Менску савецкімі партызанамі Уладыслаў Казлоўскі (нар. у 1896 г. у в. Залесьсе на Сакольшчыне) – палітычны, грамадзкі дзеяч. У 1916 г. пачаў вучобу ў Віленьскай Каталіцкай Сэмінарыі, якую неўзабаве пакінуў. З гэтай пары зьвязаў сваё жыцьцё зь беларускай ідэяй: арганізаваў беларускія школы на Сакольшчыне (1919), быў інструктарам Беларускага Нацыянальнага Камітэту на Ігуменшчыне (1920), уступіў у беларускае войска. З 1930 г. жыў у Вільні, арганізаваў гімнастычнае таварыства „Гайсак”, пасьля быў выдаўцом і рэдактарам часопіса „Новы Шлях” (1933-1939). У час нямецкай акупацыі рэдагаваў у Менску „Беларускую Газэту”.
**65** – 7.11.1948 г. у Нямеччыне загінуў у аўтамабільнай катастрофе Хведар Ільляшэвіч (нар. 17.02.1910 г. у Вільні) – грамадзка–палітычны дзеяч. Выпускнік Віленьскай Беларускай Гімназіі і Віленьскага Унівэрсытэта. Выкладаў беларускую мову ў Віленьскай Беларускай Гімназіі. Актыўна ўдзельнічаў у беларускім культурным жыцьці, друкаваўся ў беларускіх часопісах. Да 1939 г. былі выдадзены тры зборнікі ягоных вершаў. Двойчы арыштаваны польскімі ўладамі. У 1937 г. улады выкінулі яго з працы ў гімназіі. Жыў у Тапалянах каля Беластоку. Падчас нямецкай акупацыі ўзначаліў Беларускі Камітэт у Беластоку, рэдагаваў „Новую Дарогу”.
**65** – 20.11.1948 г. у Рудцы Пінскага раёна нар. Яўгенія Янішчыц, беларуская паэтка. Закончыла БДУ (1971), публікавала вершы з 1964 г. Аўтарка зборнікаў вершаў „Снежныя грамніцы” (1970), „Дзень вечаровы” (1974), „Ясельда” (1978), „На беразе пляча” (1980), „Пара любові і жалю” (1983), „Каліна зімы” (1987). Пакончыла жыцьцё самагубствам 25.11.1988 г.
**60** – 20.11.1953 г. у Саках Бельскага пав. нар . Міхась Шаховіч, беларускі пісьменьнік Беласточчыны. Закончыў беларускую філялёгію ў Варшаўскім унівэрсытэце (1977). З 1975 г. працаваў журналістам „Нівы”, з 1985 г. адказным сакратаром месячніка „Kontrasty”. Дэбютаваў у 1974 г. у „Ніве”. Выдаў зборні-

кі паэзіі „Прамінанне” (1978), „Святая ноч” (1979), „Напевы” (1987), апавяданні „Вада ў рэшаце” (1984). Памёр 05.06.2000 г.

**25** – 20.11.1988 г. памёр Гаўрыла Гарэцкі (нар. 10.04.1900 г. у Багацькаўцы Мсьціслаўскага пав.), географ, геоляг і эканаміст, брат Максіма Гарэцкага. Закончыў Пятроўскую Сельска–Гаспадарчую Акадэмію (1924). З 1925 г. дацэнт Беларускай Сельска–Гаспадарчай Акадэміі, у 1927-1930 гг. дырэктар Беларускага Дзяржаўнага Інстытуту Сельскай і Лясной Гаспадаркі. У 1930 г. арыштаваны і высланы за межы Беларусі. Працаваў у інжынерна-геалягічных экспэдыцыях Гідрапраекта СССР. Арыштаваны двойчы ў 1937 і 1938 г. У 1965 г. адноўлены ў званьні акадэміка Акадэміі Навук Беларусі. Аўтар шматлікіх публікацыяў па эканамічнай геаграфіі, сельскай і лясной гаспадарцы.

*Апрацавалі* **Лена Глагоўская** і **Вячаслаў Харужы**

## *Leon Moenke* *Stawka o życie*

***20***. – Patrzcie no go! Wielka mi figura! Z tymi słowy wyszła z sali.

* * *

– Ależ trafiliśmy! – rzekła żona do mnie, gdyśmy się spotkali na korytarzu.

– Pokój był całkiem nieduży? Co? – próbowałem żartować.

– I wspaniale urządzony! – odpowiedziała mi tym samym tonem.

Zeszliśmy na dół, na korytarz z wazami marmurowymi. Przez uchylone drzwi zajrzałem do jednego z numerów. Na ścianie wisiało olbrzymie lustro i stało kilka miękkich krzeseł. Był to rodzaj niedużego przedpokoju, prowadzącego do większego pokoju. W tym dalszym pokoju stały dwa łóżka ze sprężynowymi materacami i znowuż te same stare, ładne meble. Wysunęła się stamtąd nasza wczorajsza „wersalska” posługaczka.

– Kto tu mieszka? – zwróciłem się do niej.

– „Komandirowocznyje” (przybywający służbowo) – odpowiedziała, wymawiając to słowo tak, jakby mówiła o wielkich panach.

Teraz zrozumiałem dopiero jej wczorajszą „wersalskość”. Uznała nas bowiem za swoich klientów.

– A co tu przed wojną było? Może wiecie?

– Dom dla wdów. Samotne wdowy po generałach i pułkownikach mieszkały.

Wtem przyszli dwaj mężczyźni, z wyglądu robociarze, i zajrzeli do numeru.

– Patrz, jak tu urządzono, jak tu mieszkają. O, czy my nie budujemy socjalizmu również? – i odeszli z powrotem.

Nie po raz pierwszy słyszałem już podobne słowa z ust robociarzy sowieckich.

Ciekawy swoją drogą pomysł – myślałem, idąc za nimi – połączyć pod jednym dachem w „Smolnym” zawszony dom noclegowy dla zwykłych śmiertelników sowieckich i całkiem niezły hotelik dla biurokracji partyjnej. Cóż, blisko do siedziby „Ispołkomu”, w jednym gmachu, i mebli nawet przewozić nie trzeba! Wszystko – na miejscu i jak być powinno.

* * *

W tym oryginalnym domu noclegowym przebywaliśmy jeszcze dwie noce. Od godz. 9 rano do 7 wieczór sale nasze były zamknięte na klucz.

Zarówno ja, jak i żona, byliśmy wprost jak wniebowzięci, gdy po całodziennych znowuż poszukiwaniach udało się nam wreszcie dostać do innego internatu, gdzie nie było niezgorszego hoteliku o piętro niżej, ani waz marmurowych, ani milicjanta, ani też około stu osób, tak jak u mnie na sali, i robactwa.

Szczęśliwie, bo bez przykrości z dokumentami i bez wszy, wynieśliśmy się z „Domu Kołchoźnika” w „Smolnym”.

Co trzy, co pięć dni stawała tak przed nami na nowo kwestia noclegu. Tak siedzieliśmy nad morzem w oczekiwaniu pogody.

### Płyniemy

Szalałem z radości i podniecenia. Zrobiło się ciepło i wiatr wiał z zachodu. Po morzu chodziły fale. Temperatura wody w ciągu paru dni podniosła się do... 18°C! Nareszcie! Po czterech niemal tygodniach oczekiwania!

Popadłem wprost w stan gorączkowy. Paliłem się do czynu. Codziennie od obiadu, a czasem i od rana, siedzieliśmy teraz na plaży siestrareckiej, wypatrując najodpowiedniejszego miejsca, by można było odpłynąć niepostrzeżenie od brzegu. Chodziło nam również o wynalezienie odpowiedniej kryjówki dla schowania ubrania i dokumentów, gdyż należało się liczyć z tą ewentualnością, że „start” może się nie udać i będziemy zmuszeni do powrotu.

Przechowalnie były jeszcze nieczynne. Sezon dopiero się rozpoczynał i plażowiczów nad morzem było niewielu.

– Dzisiaj musimy już płynąć. Im prędzej to uczynimy, tym lepiej, tak ze względu na Jureczka, jak i ze względu na powodzenie naszej ucieczki. Im prędzej się wydostaniemy, tym prędzej będziemy go mogli stąd zabrać. Im dłużej zaś kręcimy się tu po uzdrowisku, tym łatwiej możemy wpaść w oko różnym gepistom i seksotom, a wówczas ucieczka będzie niemożliwa. Nie ujdziemy tu spod ich obserwacji.

*„Kurier Wileński” nr 66, 8.03.1938 r., s. 5*

– Wiem o tym – odparła żona – ale nic się nie stanie, jeżeli zaczekamy chociażby do jutra. Woda jeszcze się nagrzeje. Ja strasznie boję się zimna. Tyle czasu płynąć! Zamarznę. Utonę. Zaczekajmy jeszcze do jutra. Proszę cię.

* * *

Nazajutrz temperatura wody osiągnęła 18,6°C.

– No, wiesz, temperatura wody wprost pokojowa. Nie ma już co gadać. Omal nie 19°. Płyńmy!

– Dobrze – zgodziła się żona jak człowiek, który sam na siebie wydaje wyrok śmierci.

Ten brak energii, zapału, ta rezygnacja na samym początku przedsięwzięcia irytowały mnie i drażniły niepomiernie. Stawałem się wówczas wściekły i zły.

Ta złość i wściekłość były tym większe, iż ujścia na zewnątrz nie miały. Wszystko pozornie było w porządku, gdyż była zgoda formalna, lecz brakło najważniejszego: wiary w powodzenie przedsięwzięcia i chęci urzeczywistnienia go.

W tym wypadku byłem bezradny. Tchnąć w nią wiarę w powodzenie, dać jej chęć do walki i zwycięstwa nie udawało mi się. Wszelkie wysiłki moje w tym kierunku pozostawały bez żadnego oddźwięku, jakby trafiały w ścianę, obitą wojtokiem i watą. Byłem bezsilny. Pozostawała mi jedynie głęboka niechęć.

Od budynku zarządu uzdrowiska, gdzie wywieszone były biuletyny meteorologiczne, poszliśmy parkiem ku morzu.

Było upalne południe. Las sosnowy przepajał powietrze zapachem żywicy. Od brzegu radosnym zewem dochodził do nas miarowy poszum fal, a w górze nie głośno wtórowały im sosny i wesołymi fletami ćwierkały ptaki. Szmaragdowe poszycie lasu mieniło się plamami słońca i cieni.

– Jak piękny, jak uroczy jest ten świat! – zerwało mi się z ust. – Jakie by to szczęście było mieszkać w takim domu śród lasów sosnowych nad morzem i żyć w nim bez strachu i zgrozy z Jureczkiem.

– Ach, cobym dała, by być z nim teraz razem! - krzyknęła czy też jęknęła żona.

– Odwaga i wysiłek śmiertelny oto cena, jeżeli chcesz być i żyć z nim, a nie umierać. Sama przychodzi jedynie śmierć i zguba.

Spojrzenie pełne desperacji, męczarni i bólu było jedyną odpowiedzią. I poszliśmy dalej na zew morza.

* * *

Na plaży rozejrzeliśmy się znowu za najdogodniejszym dla nas miejscem, tzn. możliwie najbardziej odludnym. Tym razem był to odcinek plaży na południe od wszystkich wykrytych przez nas punktów obserwacyjnych, coś około 1,5-2 kilometrów od granicy w pobliżu kursalu i przystani z łódkami.

Ubranie, dokumenty i pieniądze schowaliśmy w nieczynnej jeszcze poczekalni. Była ona zamknięta, lecz nie dla nas. Znalazłem bowiem sposób przedostania się do jej wnętrza. Tam, w ukryciu od oczu ludzkich, prawdopodobieństwo odnalezienia naszych rzeczy, pieniędzy i dokumentów było, moim zdaniem, mniejsze, niż gdybyśmy je porzucili wprost na plaży bez czyjejkolwiek opieki.

Następnie zabraliśmy się już do najważniejszych dla nas przygotowań: do regulacji piłek, które miały zastępować nam pasy korkowe. Nadmuchiwaliśmy je, pływaliśmy, znowu wypuszczaliśmy z nich powietrze, aż osiągnęliśmy wreszcie to, iż, utrzymując nas na wodzie, nie wynurzały się z niej wcale.

Gdy wszystko już było w ten sposób przygotowane, położyliśmy się beztrosko na słońcu, jak prawdziwi plażowicze.

Słońce grzało, jak to potrafi czynić tylko w jasny dzień przy końcu czerwca, wiatr zaś z morza studził i orzeźwiał. Tak rozkoszując się słońcem i wiatrem, przewracaliśmy się na wszystkie strony, nadstawiając na przemian to piersi, to plecy, to jeden bok, to znowuż drugi. Nic absolutnie nie zdradzało w naszym zachowaniu czegokolwiek podejrzanego. Cóż mogło być w tym podejrzanego, iż przewracając się z boku na bok, patrzymy na plażę złocistą, na błękitne niebo, na słońce i pieniące się grzbiety fal, a czasem na zegarek?

*„Kurier Wileński" nr 68, 10.03.1938 r., s. 5*

Nawet geniusz szpiegowski nie dopatrzyłby się w tym czegoś podejrzanego.

– Jest już piąta. Patrz! Słońce świeci w oczy każdemu, kto patrzy na morze, a odblask jego wprost oślepia. Już czas! Płyńmy! – zwróciłem się do żony i powstałem.

– Zaraz, zaczekaj. Przynieś przedtem pierożków. Jeść mi się strasznie zachciało. Głodna nie popłynę. Przynieś dla siebie i dla mnie.

Skoczyłem szybko do przechowalni po pieniądze, a następnie do kursalu. Odpoczywający przed werandą kelner załatwił momentalnie moje sprawunki. Po chwili byłem z powrotem.

– Ależ prędko załatwiłeś – przywitała mnie żona.

– Nie ma czasu, trzeba się śpieszyć – odpowiedziałem jej, mając już pełne usta jedzenia. Po chwili gdy już zjadłem swoje cztery pierożki, spojrzałem na żonę. W skupieniu i z namaszczeniem nadgryzała nie śpiesząc się dopiero drugi.

– Ależ ty dzisiaj jesz, jak gdybyś żujkę żuła!

– Nie jestem indykiem. Nie mogę łykać, jak ty robisz – odpowiedziała flegmatycznie przerywając jedzenie.

Zaczęło mnie to gniewać, lecz gdy pomyślałem: „nie może wszak zajadać cztery nieduże pierożki przez dwie godziny" – uspokoiłem się i cierpliwie zacząłem czekać, by rozmową nie przeciągać w nieskończoność tej „uroczystej" czynności.

Po piętnastu minutach ciszy, gdy żona podniosła już ostatni kąsek do ust, wstałem, lecz nie zdążyłem jeszcze rzec słowa, gdy odezwała się:

– Loneczku, przynieś mi butelkę lemoniady z bufetu. Bardzo mi się pić zachciało.

Byłem zaskoczony zarówno tonem, jak i treścią tej próby.

– Powiedz od razu co ci jeszcze przynieść z bufetu, by na tę bieganinę czasu na próżno nie tracić – odpowiedziałem na to szorstko, gdyż czasu naprawdę nie mieliśmy do stracenia.

– Ja się do ciebie, jak do człowieka zwracam, a ty rzucasz się i warczysz jak ten pies.

Nie odpowiadając na wyrzuty, przyniosłem znów lemoniadę.

– No teraz to już się napiłaś i najadłaś, więc płyńmy! – zwróciłem się do niej po chwili.

– Loneczku! Proszę cię! Jeszcze chociażby 10 minut daj mi się pograzć na słońcu.

– Jeszcze nie nagrzałaś się na słońcu?! Wszak to już trwa parę godzin. Myśmy już stracili pół godziny najlepszego czasu na pierożki i na lemoniadę! Potem jeszcze ci się czegoś zechce! Co za dziwne zachowanie się!

– Loneczku! Proszę cię! Daj mi jeszcze te dziesięć minut czasu. Ostatni raz być może w życiu grzeję się na słońcu... Błagam cię! Więcej już niczego nie zechcę – rzekła ona z błagalnym spojrzeniem skazanego na śmierć człowieka.

Tym słowom, temu tonowi, temu spojrzeniu – uległem.

– Dobrze – powiedziałem – lecz trzymam cię za słowo, że jest to już twoje ostatnie życzenie i potrzeba. Dziesięć minut... z zegarkiem w ręku... daję ci jeszcze czasu.

Odetchnęła z ulgą.

– Skończone... Wstawaj! - rzekłem po upływie dziesięciu minut i zerwałem się na równe nogi.

– Zapomniałeś, że zegarek trzeba jeszcze w ceratkę zawinąć.

– Więc dawaj ceratę!

– Ja zawinę. Ty nie potrafisz. Zamoczysz zegarek.

– Swój, lecz nie twój! – i z tymi słowami schwyciłam przygotowaną w tym celu ceratę, szybko zawinąłem zegarek i wsunąłem pod niebieską siatkę na głowie. Była to jedyna rzecz, którą oprócz kostiumów kąpielowych i siatek na głowie braliśmy ze sobą do Finlandii, by mieć czym zapłacić za telegram do rodziny.

– Prędzej, prędzej, poganiałem żonę stojąc już gotowy „do drogi".

– Jestem gotowa – odpowiedziała nareszcie.

Ruszyłem szybkim krokiem. Stanąwszy na brzegu, obejrzałem się. Kilkadziesiąt kroków za mną, nie śpiesząc się, szła żona. Zaczekałem – i razem weszliśmy do wody. Było płytko. Gdy fala sięgnęła nam powyżej kolan, żona się zatrzymała. Widząc to, w milczeniu wziąłem ją za rękę i poprowadziłem dalej.

*„Kurier Wileński" nr 69, 11.03.1938 r., s. 5*

*Cdn*

# Świat, którego nie ma

***Zofia Plewińska***

***2***. Do Malewa jechało się od stacji Horodziej starym traktem obsadzonym brzozami za czasów carycy Katarzyny II. Drzewa były sadzone z każdej strony w dwa rzędy, po obu stronach między drzewami chodzili piesi. Okolica była raczej równinna, ale trochę też miejscami falista. Gdy z ostatniego wzniesienia na drodze dojeżdżając ujrzeliśmy w kotlince dwór, radość była szalona i wszyscy skandowaliśmy „Malew, Malew, już Malew"! A na ganku widzę jeszcze stojących Dziadunków, którzy zawsze tak się cieszyli naszym przyjazdem.

Gości latem było zawsze w Malewie sporo, przyjeżdżały dwie panny Sławińskie z Warszawy, jedna z nich bardzo pięknie grała na fortepianie. Przyjeżdżali sąsiedzi – więc Bułhakowie z majątku Mickiewicze, Obuhowiczowie z majątku Lipa, Jahołkowscy i wielu innych. Najbardziej cieszyliśmy się z przyjazdu stryjostwa Czesławów ze Starego Dworu, (stryj Czesław był młodszym bratem mego Ojca) bo mieli aż siedmioro dzieci, więc było wtedy z kim się bawić. Stary Dwór to było sąsiedztwo Odachowszczyzny Rdułtowskich i moja stryjenka Lonia bardzo przyjaźniła się z p. Bronisławą Rdułtowską (teściową Dziuni). Przyjeżdżała też latem zwykle na dłużej do Malewa moja druga Babunia, matka mamusi – Iwaszkiewiczowa, a też i bracia Mamy. Moi rodzice byli spokrewnieni ze sobą, bo matki były krewne. Przyjeżdżali też Bochwicowie z Florianowa. Mój ojciec mawiał zawsze, że zaręczony był z mamą „od kolebki". Bo było tak, że Babunia Zosia Malkiewiczowa przyjechała kiedyś z siedmioletnim synkiem Jankiem do Holczyc koło Słucka, do swojej kuzynki Marii z Bułhaków Iwaszkiewiczowej. Babunia Masia wyszła na spotkanie z półroczną córeczką (to była moja mama) i witając powiedziała „ot widzisz Zosiu, szykuję tobie synowę" i te słowa miały się spełnić w 18 lat później!

Lata spędzone w Malewie nie były czasem wolnym od zajęć dla nas dzieci. Zawsze jechała z nami jakaś nauczycielka, lub Francuzka i mieliśmy oboje ze Zdzisiem parę

godzin lekcji. Czasem chowaliśmy się w gałęziach dużego jesiona, który tworzył prawdziwą altanę z liści. Biedne nauczycielki wydzierały się głośno: „Sophie, Zdziś!, a my siedzieliśmy cichutko w ukryciu. Była coś przeszło rok u nas nauczycielką domową pani Strebejkowa, bardzo wykształcona osoba, znająca języki. Na wakacje sprowadziła z Warszawy córeczkę Gienię, starszą ode mnie o parę lat. Gienia mi imponowała i słuchałam jej ślepo. Otóż raz, gdy furman Mikołaj zaprzągł do fajetonu siwki – arabki i powóz stał jeszcze przed wozownią, a on pobiegł by się ubrać, Gienia wymyśliła następującą zabawę. Kazał mi usiąść głęboko w powozie i udawać „pannę" a sama jako furman wdrapała się na kozioł, odwiązała lejce i lekko uderzyła klacze batem. Klacze zastrzygły uszami i od razu poszły ostro kłusem, później przeszły w galop i pędziły na oślep przez drogę do stawu koło czworaków. Droga biegła mocno w dół i była bardzo kamienista i nierówna. My obie zdrętwiałe z przerażenia, a biedny Mikołaj gonił nas. Na szczęście udało mu się zatrzymać powóz przed stawem. Biedak był blady i trząsł się ze strachu. Naturalnie nam nie uszło to płazem, Gienia dostała w skórę od matki, a ja jako młodsza tylko duże wymyślanie i obietnicę poprawy.

Jednego lata w Malewie wszyscy troje przeszliśmy dość ciężki koklusz. Ja najgorzej się dusiłam i ojciec brał mnie wtedy i trzymał chwilę za nogi głową w dół, to bardzo pomagało, skurcz w gardle ustawał. Kazano nam jak najwięcej przebywać na powietrzu i raz biegając po ogrodzie, chwyciło mnie znowu takie duszenie, a Zdziś, nie wiele myśląc, chwycił mnie za nogi i chciał tak zrobić jak ojciec, ale ponieważ nie miał siły mnie utrzymać do góry nogami, wpakował moją głowę do ziemi w pulchną grządkę w ogrodzie warzywnym. Wtedy naprawdę ledwie się nie udusiłam!

Jedno lato spędzałam w Malewie tylko z Kaziem i Mlle Francine, bo mama wyjeżdżała ze Zdzisiem do Meranu (miejscowość kuracyjna w górach w Tyrolu), a potem na południe, nad jezioro Lago Magiore do Włoch. Zdziś miał wtedy operowaną prawą rękę, wyjęto mu małą kostkę z wierzchu prawej dłoni, gdzie uformował się duży guz na tle gruźliczym. Kuracja klimatyczna dobrze mu zrobiła i nigdy potem na gruźlicę nie chorował. Jedną część lata i zimy spędziłam też ze Zdziśkiem u Babuni Masi w Smoleńsku. To było jeszcze przed urodzeniem Kazia. Rodzice wyjechali na czas dłuższy do Krakowa i Wiednia. Ojciec po ukończeniu Wydziału Lekarskiego w Dorpacie (Estonia) odbywał jakby staż w klinikach krakowskich i wiedeńskich.

Dziad mój, Leonard Iwaszkiewicz, ojciec mamy, kupił pod Smoleńskiem majątek Biełkino, od jakiegoś Moskala. Jak już wspomniałam, Polakom nie wolno było kupować ziemi na terenach dawnej Polski. Majątek był piękny, ale Dziaduniowie bardzo tęsknili za krajem, a że były właściciel też chciał odkupić swą własność, więc odstąpili majątek dawnemu właścicielowi, a sami na razie zamieszkali w Smoleńsku, bo synowie już tam chodzili do szkół.

Tej zimy gdyśmy tam mieszkali, zmarł Dziad Leonard. Mało go pamiętam, miał gęstą czarną brodę i duże czarne oczy. Została mi w pamięci chwila, kiedy Mama klęczała przy Jego łóżku i bardzo płakała, wtedy chyba zmarł. U Babuni w Smoleńsku była z nami nasza kucharka – Antosia. Często prowadzała nas do parku na spacer. Latem, bawiliśmy się koło pomnika Glinki (znany kompozytor muzyki rosyjskiej). Ze Smoleńska pamiętam też wysokie czerwone, obronne mury miasta.

Ostatnie wakacje w Malewie były już po śmierci Dziadunia. Babunia wzięła rządcę, który gospodarzył i pomału wszystko likwidował. Był to chyba 1906 r. Pamiętam, jak jechaliśmy kiedyś ze stacji końmi przez kilka wsi do Malewa w 1905 r. i po drodze w jednej wsi chłopi obrzucili nasz powóz kamieniami, wołając: "Pany jeduć". Było nieprzyjemne, to były pomruki rewolucji...

Lata dawniejsze były zawsze bardzo upalne, suche, przechodziły jednak czasem okropne burze, zlewy z piorunami. Jako dziecko strasznie bałam się burzy, gdy się chmurzyło już byłam niespokojna, biegałam do pokoju Dziadków i modliłam się przez dużym obrazem Pana Jezusa w cierniowej koronie, który wisiał nad ołtarzykiem, gdzie wszyscy zbierali się na nabożeństwa majowe. Modliłam się słowami mojej Babuni Masi, która zawsze w czasie burzy zabierała nas wszystkich i żegnając ciemną chmurę krzyżem św. mówiła:

„Oddal Panie ten obłok, który widzę przed sobą,
Jeśli w nim jest jakaś moc szkodliwa
Twoją Świętą Ręką oddal go na miejsce puste
I niemieszkalne, gdzieby ani ludziom,



**Dziaduniowie Donat i Zofia Malkiewiczowie pod oknem pokoju, w którym się urodziłam**

Ani zwierzętom, ani żadnemu pożytkowi
Ludzkiemu szkodzić nie mogło...”

Potem żegnała obłok na cztery strony świata, powtarzając tę samą modlitwę. Chodziło się też z małym dzwoneczkiem loretańskim naokoło domu... a burza cichła i oddalała się...

Jak nas ubierano w te upalne lata? Vide – na fotografiach w albumie, czarne, prążkowane pończochy i wysokie sznurowane buciki!

Ojciec mój miał dwóch braci. Najstarszy – Czesław, rolnik studiował w Taborze rolnictwo i najmłodszy – Józef, który zmarł mając lat piętnaście! Stryj Czesław ożenił się z Leonią Żukowską z majątku Olchówka, położonego w bliskim sąsiedztwie Olchówki Bochwiców, majątku Babuni Zosi Malkiewiczowej. Stryjenka Leonia była moją matką chrzestną, a ojcem dr Borowski z Nieświeża, przyjaciel ojca, wielki facecjonista, bardzo wesoły. Ogromnie go lubiłam. Przebywał długie lata na Syberii w miejscowości Talica, jako lekarz p.p. Koziełł-Poklewskich, którzy tam mieli swoje kopalnie czego? – nie wiem i dorobili się ogromnego majątku, później wrócili do kraju. Stryjostwo mieszkali, jak już wspomniałam, niedaleko Malewa, w Starym Dworze, ale przepisy trochę zelżały i Stryj mógł kupić majątek Prepunty w guberni smoleńskiej w roku 1902. Tam odtąd jeździliśmy często na wakacje.

Dziad mojej matki Melchior Rudoszański-Iwaszkiewicz herbu Gozdawa mieszkał w majątku Holczyce k/Słucka, w najbogatszym powiecie ziemi mińskiej. Był plenipotentem dóbr księcia Widtensztajna i prowadził jego interesy. A dobra to były ogromne, powstały pewnie z zabranych po powstaniach majątków ziemskich. Dziad był bardzo surowy i drżeli przed nim nie tylko podwładni, ale i rodzina. Żonaty był z Apolonią Wolską, mieli jednego syna, Ojca mojej Matki – Leonarda i sześć pięknych córek. O prababce nie wiem nic, prócz tego, że wisiał u rodziców moich jej portret, gdzie przedstawiona była jako staruszka w białym czepeczku i aksamitnej czarnej sukni. Oczy miała duże, czarne, takie jak wszystkie jej córki. Drugi portret w jadalni u rodziców przedstawia młodą, piękną kobietę z wysoko upiętym warkoczem. Uczesana gładziutko, suknia aksamitna, czarna z dużym dekoltem, rękawy bufiaste spadające z ramion – to była moja druga prababka – Bułhakowa, matka Babuni Masi Iwaszkiewiczowej – z domu Emilia Narkiewicz-Jodko. *Cdn*

# *Ледзь засталіся ў жывых*

– Сагналі нас усіх у пераходны лагер ва Уроцлаве – успамінала **Марыя Кузьма** з вёскі Лясное каля Нараўкі. Апошнія дні вайны былі, баі астатнія. Нагналі столькі народу з лагераў, з работ – тысячы! Я з сям'ёю, з дзецьмі, з маткай тры гады ў Нямеччыне была рабіла... Сагналі нас у такі раён, што наўкол толькі разваліны, руіны, адно брама цэлай засталася. А такія енкі, такі лямант – людзі, дзеці плачуць вады, а вада... бяжыць проста па вуліцах. Вадапомпу якраз разбілі, кажуць, вада атручаная, нельга яе чапаць. А ўсе ад смагі гінуць, і думка адна, што нас тут усіх кончаць. А тых стражнікаў чатырох стаіць ў той браме, кудою цяжкія машыны праязджаюць.

Людзей як маку... Малых, старых... Гляджу на аднаго немца, на яго пагоны – заслужаны, а сам маладзюсенькі. Ідзе – я за ім. А мая мама сядзіць каля майго меншага, народжанага ў трыццаць дзевятым – ён ужо нам ссінеў, так без вады яму кепска... Уміраць будзе... Я за тым немцам, ззаду, за ім... У цемры бачу – нейкі сівы коц вісіць, пад ім двое старэчаў сядзіць, святло нейкае б'е ў тунелях. Кажуць старыя немцы таму маладому: „Глянь, а хто ў цябе ззаду стаіць?!” Я ўсё разумею, кажу па-нямецку: „Не бойцеся”. – „А чаго ты хочаш?” – „Мой юнг умірае, вады яму трэба”. – „Дайце трошкі вады,” – кажа малады немец; пэўна, бацькі гэта былі ягоныя. Яны патарабанілі ў бак, кажуць, што і ў іх вады няма. Усё ж нацюркалі мне трошачкі. Вайсковец кажа: „Я буду ісці спераду, а ты – за мною. Я выйду, а ты пастой яшчэ крыху, каб ніхто не бачыў, што мы разам ідзем”.

Я хутчэй бутэльку маме: наце, піце. А тут людзі рушылі да мяне: адкуль ваду ўзяла?! У цыстэрнах жа вада атручаная! Я падышла да тых немцаў, што стаялі ў браме, гляджу па-за імі – а там лонкі відна, даліну, волю! А вада гудзе па тратуары. Кажу немцу: „Дайце вады! Мы на вас столькі працавалі! Дзеці нашыя ўміраюць, вады просяць... З нашых гаспадарак тое ў нас засталося, што на плячах, а мы ж мелі дамы, кароў, коней... Нас сагналі вы сюды тысячамі, дайце нам хоць перад смерцю напіцца. Пасля можаце нас усіх, і дзяцей нашых – пабіць”. – „Нэйн, нам нельга”. – „То скажыце, што з намі зробіце! Біце адразу!” Я тады была такая цянюткая, толькі што выйшла з бальніцы, страшныя атакі болю пячонкі мяне ў крук сагнулі... Стаю такая маленькая перад тымі ўзброенымі немцамі. „Я свайго шаснаццацігадовага сына, такога як і вы, аддала ў акопы, не ведаю, ці ён жывы... Дайце вады! Жыццё і так усё страчана наша. А не – то мы самі вас паб'ём!” – „А як ты нас паб'еш? У нас жа ж ружжо!” – „Вы нас усіх не паб'еце. Вось колькі манаў нашых стаіць. А хоць бы і штыкетамі!” А нашым мужчынам кажу: „Ламіце штыкеты, будзем іх страшыць, я пайду папярод”. Сабралася дванаццаць нашых, сталі мы перад стражнікамі... А тая вада рвецца, па тратуарах,

па вуліцы, а піць не можам! Такая пакута! Ступілі мы пару крокаў. Тыя – лясь-лясь! – ружжом. Ано даць залп – і ўсё з намі. Кажу хлопцам: „Пастойце, я яшчэ з імі пагавару”. З пяць крокаў яшчэ ступіла. І ўсё да аднаго немца звяртаюся, а тыя трох – ані слова. „Ці магу яшчэ падысці?” – „Ja, kommen”. Я цап яго за руку, гляджу яму ў вочы, усміхаюся: „Дайце вады!” – „А як жа тую ваду вам даць? Як напаіць столькі народу?” – „Калейка! Разумееш, што такое чарга? Як пяць чалавек, то будзе дзесяць вёдзер. А калі дзесяць чалавек, то...” – „Ja, ja...” – „Кідайце сваё ружжо, ідзіце па вёдры”.

Мяне паставілі ў той вадзе, а яна бяжыць, такая цёпленькая, сонца якраз з поўдня свяціла. „Ты будзеш першая, каго заб’ем, калі твае будуць уцякаць!” – „А хто тут будзе ўцякаць, калі тут сем’і, дзеці... Але ці я іх упільную?..” Людзі пачалі браць тую ваду. Крычыць немец: „Не піце гэтае вады, спачатку яе зварыце. Ламіце платы, раскладвайце агонь!” Усе платы палеглі. У пяці месцах распалілі агні. Людзі прынеслі маім дзецям кубачкі, хлеба, вады... Наранку не было ні немцаў, ні вады. „Людзі, уцякайце хто куды!” – адзін вялікі крык. Мы разбегліся, адзін аднаго не бачачы. У бункеры, у развалiны.

Сядзелі мы пад якімісь трубамі. А перад намі – вайна. Пад адной сценкай – рускія байцы, пад другой – нямецкія. І за кожную адну сценку біліся. Гэта аж немагчыма расказаць! Кацюшы б’юць па мурах – бух! бух! – усё ў агні. Малы мой вельмі ж крычаў: „Дзе тата?! Дзе тата?”

Занялі нас рускія, пазбіралі, уцягнулі ў якісь дом. А на трэцім паверсе – немцы. У паніцы выбегла адна жанчына. То выбяжыць, то зноў вернецца, нікога не слухае. Трэці раз выбегла, немец з акна – пах! У апошні дзень вайны загінуць... Бабы ў плач. Я выйшла, прашу таго, што з камяніцы страляў, па-нямецку: „Не трэба страляць! То ж усенька Бог бачыць! Мы ж столькі год на вас рабілі! А гэтая ж жанчына нямецкая фраў, і яшчэ адна тут з намі ёсць, бо мы тут усе, цывільныя, перамешаныя!” Бачу, перабег той немец доўгім акном. Кажу людзям: „Бярэце свае гаспадаркі на плечы, пойдзем. Не плачце! З намі Бог. Я з радзінаю сваёю пайду спераду”. Усе пабралі клункі, мой чалавек узяў малога... Пайшлі.

Ішлі мы з самюткага рання ў тыл. А там стаялі рускія штабы. „Ежели польский – пройдёшь, ежели русский – пропадёшь”, казалі тады. Майго чалавека ўзялі на расстрэл. Я з мамай папаўзла на каленях да тых саветаў, каб яго пакінулі пры жыцці. Пусцілі, але, кажуць, праз тры кіламетры зноў яго затрымаюць. Адзін старшына нас асцерагаў, адчайваўся: „Матка маладая, і ты таксама такая маладзенькая, памардуюць па дарозе пад корчыкамі!”, ды правёў нас далёкаю дарогаю, каб абысці наступны пост... Схаваліся мы ў адным бункеры. Ноччу мусіла я выйсці, не буду ж мачыць клункаў, усе людзі на падлозе спяць. Па ўсходах сышла, а тут хтосьці – топ-топ! – ходзіць. „Хто ты?” – „Беларуская. Але пусці мяне, мушу выйсці за патрэбай. А там мая сям’я, нас там многа, у бункеры начуем. Толькі схавай гранату, не палохай нас.” Ён увайшоў, пытаецца, дзе мая сям’я, дзе муж. Дастаў бутэлечку гарэлкі, наліў мужу. А той не хоча. Выпі, выпі, кажу майму. Клыкнуў. І сам рускі клыкнуў. І кажа: „Як будзеце праходзіць праз пасты, калі будуць цябе затрымліваць, кажы, што ты – паляк”. Так і застаўся мой муж у жывых, прыкінуўшыся палякам... Праўда, усё ж загналі яго яшчэ руіны развальваць, парадак наводзіць на развалінах. Вярнуўся дадому амаль праз паўгода пасля нас, увесь апухлы і хворы. Усё ж, жывы.

Дзве вайны пражыла, і ў хаце вытрывала, і трэба ўміраць, бо і не? Дакументы з таго часу пагубілі, сведкі паўміралі. Хто за пакуты ў Нямеччыне нейкі грош дастаў, бы можна было за такое заплаціць! Але і гэтага я не маю, бо не залатвіла. Але што мне тыя грошы, калі я сонца не бачу...

**Міра Лукша** ■

# *Пісьмы і паштоўкі да Міхася Петрыкевіча*

У мінулым кастрычніцкім нумары „Czasopisu” быў апублікаваны мой артыкул пра беларускага настаўніка, краязнаўца і музейшчыка з Дзятлава Міхася Петрыкевіча (1913-1999). Нядаўна яго сын Валерый Петрыкевіч з Дзятлава перадаў мне дзесяткі пісем і паштовак, адрасаваных Міхасю Петрыкевічу. Гэта пісьмы ад украінскага паэта Максіма Рыльскага, ад беларускіх літаратараў Уладзіміра Калесніка, Янкі Брыля, Анатоля Іверса, Максіма Танка, Зоські Верас, Льва Мірачыцкага, Васіля Струменя і іншых асоб, з якімі Міхась Петрыкевіч перапісваўся і сябраваў. Гэта вельмі каштоўныя лісты, у іх шмат фактурных і гістарычных звестак, інфармацый, зацікаўленняў. Шмат пісем, адрасаваных Міхасю Петрыкевічу, я падрыхтаваў і ўключыў у ягоную кнігу „Цеплыня душы”, якую сабраў і падрыхтаваў да друку і якая, як усё будзе добра, сёлета пабачыць свет у мінскім выдавецтве „Кнігазбор”.

Вязанку пісем і паштовак ад сяброў Міхася Петрыкевіча і каментар да іх прапаную чытачам „Czasopisu”.

**Сяргей Чыгрын**

Высокашаноўны Міхайла Фёдаравіч!

Дасылаю Вам сваю кніжачку, дзе напісаны вершы пра Беларусь, пра Адама Міцкевіча. Падпісаў я кніжачку Вам, але прашу перадаць яе школьнаму краязнаўчаму музею. А надпіс мой няхай будзе на ўспамін пра нашу сумесную паездку па Міцкевічавых мясцінах…

З пашанаю – М. Рыльскі.
*7 мая 1963 года*

Дарагі Міша!

Выбачай, што так доўга не пісаў, не адказваў на твой ліст: адчуваў сябе, як загнаная кляча, столькі на галаву звалілася ўсякай усячыны. Сорак пяць гадоў жыў на свеце і лічыў сябе бывалым чалавекам, а як аказалася, дык выглядаю сляпым кацянём перад такзванымі дзелавымі людзьмі. Хоць ты вазьмі ды не знаю што зрабі ад злосці і агіды. На шчасце ўсё на свеце забываецца і траціць вастрыню.

Я рады, што ты не шкадуеш, што ўзяў на сябе такую не лёгкую, хоць скажу табе дужа пачэсную працу. Расказваў мне Брыль, што ты ўжо абчысціў там крыху ягоныя і Танкавыя захаванкі. Добры пачатак. Сёе-тое дам табе і я. Напрыклад, рукапіс аўтабіяграфіі Міхася Васілька, зборнік вершаў „З сялянскіх ніў”, сякія-такія фотадакументы. Юрка Тарасюк да мяне, на жаль, не заглянуў, думаю пад’ехаць да яго сам. Калі буду ў тых краях, прыеду глянуць на твае поспехі і, наогул, хочацца з табой пабыць, пагаварыць.

Летам мы плануем паехаць з Брылём па Волзе-матухне ад Масквы да Астрахані і назад. Прыедзем дзесьці ў ліпені, тады дзён на дзесяць паеду да мачахі, калі ты будзеш вольны, дык маглі б выбрацца куды-небудзь удваіх.

Бывай здароў. Жадаю найлепшых поспехаў у тваёй пачэснай працы. Прывітанне тваім жанчынам.

Уладзімір Калеснік
*1967 год*

Дарагі Міша!

Не напісаў табе адразу, чакаю прыезду Валодзі: думаў, што разам падумаем і напішам. А тут ён прыехаў і кажа, што ўжо напісаў табе.

Што я табе магу параіць? Валеўцы ты аддаў нямала, калі на Беларусі, дзякуючы тваім здольнасцям і энергіі, будзе створаны яшчэ адзін ачаг культуры – вельмі добра! Тым больш, калі ўмовы табе там дадуць добрыя. Мы тут з Валодзем гаварылі: а што датычыцца нас, дык мы цябе і ў Дзятлаве знойдзем.

Сардэчна вітаем цябе, Марыю Барысаўну і патомства і жадаем ўсяго найлепшага.

Янка Брыль.
*17 мая 1967 года*

Дарагі дружа!

Выбачайце, што адразу не змог адказаць на Ваша пісьмо. Апошні месяц быў на Нарачы, дзе зноў мяне мучыла хвароба, з якой ніяк не магу развітацца. Перад выездам з Мінска, я перадаў для Вас Янку Брылю адзін нумар „Нашай волі” і адзін нумар „Poprostu”. Відаць Іван Антонавіч не паспеў Вам яшчэ перадаць і свае і гэтыя матэрыялы. Зараз ён недзе ў падарожжы. Прыедзе – я яму напомню. Жадаю Вам поспехаў у Вашай працы. Моцна цісну вашу руку.

З прывітаннем – Максім Танк
*18 жніўня 1967 года*

Дарагі Міша!

Лепшай, менш замурзатай, кніжкі ў мяне няма. Знайшоў выпадкова ў сваім архіве „А хто там ідзе” – можа табе прыдасца?

Хварэў, ляжаў амаль тры тыдні, ужо хаджу, але на вуліцу не выходжу. Будзеш – абавязкова заглядвай. Прывітанне Марыі Барысаўне. Начальства не вельмі бойся, – чым лепш, грунтоўней зробіш музей, тым будзе лепш.

Жадаю поспеху.

Янка Брыль
*17 кастрычніка 1967 года*

Паважаны калега!

Пісьмо атрымаў. Цэнтральная бібліятэка АН Літоўскай ССР знаходзіцца на вуліцы Т. Урублеўскага, недалёка ад вежы Гедыміна і Кафедральнага касцёла – на беразе Віліі, у вуглавым будынку. Там у аддзелах рукапісаў і рэдкіх кніг, думаю, знойдзеце многа цікавага. У аддзеле рукапісаў карыстайцеся алфавітнай картатэкай населеных пунктаў – геаграфічным паказчыкам. Паглядзіце ў фондзе Урублеўскага судзебныя справы. Ехаць ад вакзала да бібліятэкі другім тралейбусам да прыпынку „Плошча Гедыміна”.

У мемуарах мінскага ваяводы К. Завіша з XVIII стагоддзя сустрэў месца, што яму дужа добра гулялася ў Здзенцёле, за што Здзенцёл і быў празваны Парыжам… Калі гэта неяк патрэбна – магу прыслаць выпіску.

З прывітаннем і павагай – Адам Мальдзіс
*Мінск, 22 лютага 1970 года*

P.S. Уладзімір Караткевіч кланяецца ўзаемна.

Паважаны Грамадзянін!

Прачытаўшы артыкул А. Мальдзіса „Сляды продкаў”, дзе ён з энтузіязмам гаворыць аб Вашай працы ў Дзятлаўскім музеі і адначасна прыпомніўшы, што я чула аб Вас, як аб былым вучні Беларускай Навагградскай гімназіі падумала, што можа ласкава захочаце памагчы захаваць след нядаўняй мінуўшчыны, – след Навагрaдскай гімназіі.

Ёсць ўспаміны-гісторыя Нясвіжска-Клецкай Беларускай гімназіі з фатаграфіямі – у форме альбома. Пішацца гісторыя Беларускай Радашковіцкай гімназіі. Збіраем матэрыялы да гісторыі Віленскай Беларускай гімназіі, а аб Навагрудскай німа нічога…

Калі б у Вас былі якія матэрыялы, здымкі і г.д., а таксама кантакты з былымі вучнямі – калі ласка паведамце. Можа пры Вашай помачы ўдалося б што зрабіць, каб памяць аб гэтай гімназіі не загінула. Чакаю з надзеяй Вашага адказу.

З пашанай Л. Войцікава
*Вільня, 9 лістапада 1970 год*

P.S. Пры аказіі інфармую, што я вучылася ў Горадні, уся Гарадзеншчына для мяне вельмі дарагая і я адзіны, здаецца, апошні сябра Гродзенскага Гуртка Беларускай Моладзі, які быў зарганізаваны ў 1909 годзе і працаваў да 1913 года ўключна. Маю напісаныя ўспаміны аб гэтым Гуртку і фатаграфіі групы з 1910 і 1911 гадоў. Л.В.

Паважаны Міхаіл Фёдаравіч!

Сёння атрымалі Ваш матэрыял аб справаздачна-выбарчай канферэнцыі раённага аддзялення Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Шчыра дзякуем.

Вельмі добра, што Вы ў сваім артыкуле падрабязна спыніліся на помніках Дзятлаўскага раёна. Але, на жаль, Вы нічога не сказалі пра работу самой канферэнцыі. Просім Вас у самы бліжэйшы час даслаць нам імёны тых, хто рабіў даклад і выступаў у спрэчках, іх імя і імя па бацьку, пасаду (службовую і грамадскую ў Таварыстве). Дарэчы, калі будзеце даваць ініцыялы, просім у дужках напісаць імя і імя па бацьку. Тое ж самае датычыць і пахаваных на тэрыторыі раёна герояў Г.П.Русіна і П.Г.Пятрова.

Вельмі просім Вас таксама выслаць нам адно ці два фота: альбо работы канферэнцыі, альбо мясцовага помніка.

Просім Вас, дарагі Міхаіл Фёдаравіч, зрабіць гэта ў бліжэйшых некалькі дзён – матэрыял ідзе ў чарговы нумар бюлетэню „Помнікі гісторыі і культуры Беларусі”.

З найлепшымі пажаданнямі – Рыгор Бярозкін
*16 сакавіка 1972 года*

Міхале!

Выручай мяне спешна: патрэбны для кніжкі, над якою пакутаваў дзень і ноч да ўпаду, здымак Ігната Дварчаніна, пажадана 1920-х гадоў, перыяду вучобы ў Празе. Калі ёсць двайная адкрытка – зусім добра, калі меншы – сам пераздыму і павялічу. Толькі не адкладвай.

Гэты год прайшоў у мяне ў небывалым напружанні – гнаў рукапіс новай кнігі летам. На Добрачы нас было мнагавата як на тамашнія ўмовы, таму цябе не клікаў. Зося хварэе. Вярнуліся дамоў і яна злягла ў бальніцу, цяпер пасля аперацыі вычухваецца. Вось і ўсё. Будзе аказія – загляні ў Брэст. Святкавалі 20-годдзе музея абароны крэпасці, але цябе чамусьці не было (?).

Цісну руку. Прывітанне Марыі і ўсім вашым.

Уладзімір Калеснік.
*Брэст, 20 лістапада 1976 года*

Дарагі Міхале!

Даруй, што так доўга цягнуў з адказам на тваё пісьмо: процьма ўсякіх клопатаў у якіх не адчуваеш сябе чалавекам, а нейкай упрэжанай жывёлінай. Мы жывем на вуліцы Чапаева 10, кв. 54 – гэта ў цэнтры горада. Калі едзеш па вуліцы Леніна, дык звярнуць міма помніка Леніну ўніз і прайсці два кварталы ў кірунку парку. Раён ціхі, зялёны, кватэра вельмі зручная на 4-м паверсе, шкада толькі, што няма часу пакарыстацца зручнасцямі: то ўладкоўваўся – расстаўляў кнігі, прыбіваў і прымацоўваў усякую ўсячыну, а цяпер сесія, ды была паездка ў Польшчу на 10 дзён па справе „Вогненнай вёскі”, сяджу над ілюстрацыямі (у ванне зрабіў фоталабараторыю). Вось так.

На Добрач буду ехаць недзе 20-га, ці каля гэтага, дык сустрэнемся і пагаворым.

Янку 60 гадоў у жніўні. Ён будзе ў Беразіне ў Крамко.

Прывет тваім.

Уладзімір Калеснік
*11 ліпеня 1977 года*

Добры дзень, Міхаіл Фёдаравіч!

Атрымаў Ваша пісьмо. Просьбу Вашу выконваю з вялікай прыемнасцю, бо лічу, што справа, якую Вы паставілі перад сабою, заслугоўвае ўвагі. Ігнат Дварчанін быў не толькі палымяным абаронцам інтарэсаў беларускіх працоўных мас у даваенныя гады, ён унёс вялікі ўклад у развіццё беларускай культуры на заходніх землях. Дастаткова ўспомніць яго навуковую і педагагічную дзейнасць, выдавецкую. А якое вялікае значэнне мела яго „Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры”! Ігнат Дварчанін вядомы літаратар, публіцыст. Міхась Васілёк, напрыклад, назваў Дварчаніна сваім літаратурным настаўнікам. Аднак яго грамадска-палітычная дзейнасць, навуковая і педагагічная, а таксама літаратурная, дагэтуль мала вывучаны. Матэрыялы раскіданы і амаль што невядомы. Таму працы па іх даследаванню шмат (Мною зроблена мала, можа крышку больш, чым другімі даследчыкамі).

Ваша задума сабіраць матэрыялы пра Ігната Дварчаніна вельмі своечасовая. У мяне ёсць два фотаздымкі. Я іх даў Пятру Іосіфавічу, каб ён перадаў свайму сыну для павялічэння. Затым Вам перашлем. Дырэкцыя музея Якуба Коласа зробіць фотакопію тытульнага ліста

хрэстаматыі Дварчаніна, на якой ёсць падаруначны надпіс. Саму кніжку музей перадаць не можа, бо гэта ў іх адзіны экземпляр. Газеты заходнебеларускія, у якіх друкаваліся яго выступленні ў польскім сейме, відаць, дастаць будзе цяжка. Магчыма патрэбна звярнуцца ў краязнаўчыя музеі, мо яны дапамогуць. Добра было б дастаць адзін-два нумары часопіса „Маланка", у якім працаваў Ігнат Сямёнавіч.

У мяне ёсць толькі рабочыя выпіскі з некаторых выданняў, дзе гаворыцца пра Дварчаніна. Што мною апублікавана пра яго? У часопісе „Беларусь" за 1965 год, № 5, старонка 25, змешчаны мой артыкул „Імя, не забытае народам". Гэта была першая публікацыя пра нашага земляка. У беларускай энцыклапедыі змешчаны допіс пра яго. У раённай Дзятлаўскай газеце дзесьці ў 1966-1967 гадах было надрукавана маё апавяданне пра Дварчаніна пад назвай „Калі мацнеюць крылы". Гэты нумар газеты раённая рэдакцыя мне выслала, але ў мяне яго пазычылі. Пастараюся, каб вярнулі. Тады можна было б зрабіць фотакопію, бо раённыя газеты надта ж хутка псуюцца (жаўцеюць на сонцы), і апрача таго мне самому хацелася б мець экземпляр.

Збіраюся напісаць пра Дварчаніна даклад аб яго жыццi і дзейнасці, каб затым можна было выступіць у сваім інстытуце, а таксама і ў іншых калектывах. Думаю, што таварыства „Веды" зацікавіцца маёй ідэяй. Зараз пакуль што гэтым заняцца я не магу, бо рыхтуюся да VIII Усесаюзнай канферэнцыі гісторыкаў-славістаў, якая адбудзецца з 1 па 4 лютага гэтага года ў Данецку. Затым мне трэба тэрмінова рыхтаваць свой рукапіс кнігі пра беларуска-чэхаславацкія культурныя сувязі да выдання. На гэта пойдзе ўвесь люты і сакавік. Думаю, што да мая сёе-тое зраблю, а ў маі змагу ўжо выступіць з такой лекцыяй перад аўдыторыяй слухачоў.

Вось і ўсё, дарагі Міхаіл Фёдаравіч, што я магу на сёння Вам паведаміць пра Дварчаніна. На гэтым закончу.

З найлепшымі пажаданнямі Ваш
– Леў Мірачыцкі
*Мінск, 17-18 студзеня 1978 года*

Дарагі Міхайла Фёдаравіч!

Сардэчнае Вам дзякуй за высланую мне кнігу „Дзень паэзіі-78". Як толькі прыеду да Дзятлава, дык у першую чаргу пастараюся пабачыцца з Вамі і яшчэ раз падзякаваць Вам за тое, што Вы паклапаціліся – купілі яе і выслалі. Значыць, я перад Вамі ў даўгу застаюся. Калі маеце магчымасць, дык прыязджайце ў Сарны да мяне ў госці. Усёлета мне ўжо прыйдзецца, калі буду здаровы, пабываць у Дзятлаве і ўвогуле на Гродзеншчыне некалікі разоў, бо 40-я ўгодкі ўз'яднання гэтага вымагаюць. Трэба будзе пабываць і ў Мінску абавязкова, каб даведацца, як будуць рухацца мае выдавецкія справы, і штосьці трэба будзе рабіць у гэтым накірунку.

Цяпер ужо буду мець дзве кнігі „Дзень паэзіі-78", бо яшчэ раней атрымаў ад Янкі Брыля. Але гэта добра, што буду мець не адну кнігу. Нават не дрэнна будзе, калі яшчэ хто-небудзь прышле, бо сёстры мае па айчыму (Паўлу Вікенцьевічу Івашэвічу) просяць і нават яшчэ сёй-той з добрых сяброў. Аднак, у першую чаргу, няхай будуць для дзяцей і ўнукаў на памяць.

У снежні я лячыўся ў санаторыі, у горадзе Кіславодску. Лячыў сардэчна-сасудзістую і нервовую сістэму. Трэба было і рэўматызм таксама лячыць, але ў тым санаторыі гэтага не лечаць. Вядома ж, крышку дапамагло лячэнне, аднак чамусьці тае працаздольнасці няма, якая была раней, асабліва да творчай працы. А вось да такой працы, як з лапатай ці сякерай ў руках ахвота ёсць і магчымасць лепшая, ды толькі бяда ў тым, што такой працы няма ў мяне дома. Мне Максім Танк ужо некалькі разоў казаў: „Ты давай старайся напісаць успаміны пра ўвесь свой жыццёвы шлях па гадах і месяцах. З гэтага будзе больш карысці і лягчэй будзе выдаць". Але я чамусьці не магу адарвацца ад паэзіі. І хаця пачаў пісаць успаміны, аднак пішу мала.

Яшчэ раз сардэчнае Вам дзякуй, дарагі дружа Міхайла Фёдаравіч, за кнігу. Моцна цісну руку і абдымаю.

З глыбокай павагай да Вас
– Ваш зямляк Васіль Струмень
*Сарны, Украіна, 17 студзеня 1979 года*

Дарагі браток Міхаіл Фёдаравіч!

Атрымаў тваё шчырае, душэўнае пісьмо. Дзякую. Яно ўсхвалявала мяне, дарма кажаш, што ты не паэт. Ты сапраўды паэт у прозе, а, значыць, і ў душы. Толькі ты перахваліў мяне, назваўшы „першай зоркай". Ад такіх слоў зрабілася неяк няёмка. Дарэчы, хачу сказаць, што нашы вялікія літаратурныя выданні не вельмі хапаюцца за мае вершы. Ды Бог з імі, можа яны ў чым-небудзь маюць рацыю. Адно хачу зазначыць не пра сябе, наогул: паэзія, створаная ў традыцыйнай форме і стылі, будзе хваляваць не адно пакаленне сваёй мілагучнасцю, задушэўнасцю, яна заўсёды будзе класціся на ноты, каб стаць песняй. А песня „строить и жить помогает…".

Тваё пісьмо настройвае на роздум, вяртае ў маладосць. Вядома, думкамі. Думай не думай, а мы з кожным годам старэем і нас застаецца ўсё менш. А Ігната Дварчаніна даўно няма. Але нашага слаўнага земляка, чалавечнага чалавека, вучонага, літаратара, выдатнага грамадскага дзеяча мы помнім. І, безумоўна, трэба зрабіць, каб яго ведалі і маладзейшыя за нас, хто ніколі не сустракаўся з ім і не адчуў цеплыні яго душы. Напісаў кароткі ўспамін пра аднаго найлепшага свайго настаўніка – пра Ігната Сымонавіча Дварчаніна.Хоць гэта было зрабіць цяжкавата, бо ў Віленскай беларускай гімназіі я быў яшчэ малады і асабістых кантактаў не меў. Але тое, што запала ў душу, зрабіла ўплыў на мой далейшы шлях у жыцці, хвалюе і цяпер. Успаміны паслаў.

Кнігу Аляксандры Бергман пра Браніслава Тарашке-

віча прачытаў з вялікай асалодай. Шчыры дзякуй аўтару, што яна паднімае гісторыю нашай барацьбы за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне, за ўвекавечванне добрай памяці слаўных людзей. Не магу не радавацца, што яна ўзялася за напісанне працы пра І.С.Дварчаніна. Добра і тое, што ў Польшчы хочуць выдаць дысертацыю земляка пра Ф.Скарыну. Усё гэта ўклад у скарбніцу нашай гісторыі і культуры.

Усяго найлепшага табе.

Іван Міско
*20 студзеня 1980 года*

Добры дзень!

Дарагі Міхайла Фёдаравіч!

Атрымаў Ваш ліст з паведамленнем пра тое, што Вы атрымалі мае матэрыялы (украінскія газеты).

Мне здаецца, што акрамя газет, ёсць у мяне досыць прыдатных іншых матэрыялаў (фотаздымкаў), якія маюць адносіны або да Беларусі, або да Украіны і да маіх сувязяў з пісьменнікамі. Але высылаць іх не магу. Добра было б, каб Вы самі прыехалі да мяне і выбралі лепшыя. Бо ёсць досыць фотаздымкаў, пісем і іншага, што на маю думку мае гістарычнае значэнне. Я ўжо гэтак рабіў з мэтай перасылання ў некаторыя беларускія і ўкраінскія музеі. Асабліва шмат матэрыялаў у мяне з 1960-х гадоў і з першай паловы 1970-х…

На гэтым я завяршаю сваё сяброўскае пасланне да Вас. Жадаю Вам наймацнейшага здароўя да сотні гадоў, шмат шчасця і вялікіх поспехаў ва ўсіх справах, каб было так, як Вам хочацца і ўсёй Вашай сям'і.

Сардэчна Вас абдымаю. Да сустрэчы!

Ваш Васіль Струмень (Лебедзеў А.М.)
*Сарны, Украіна, 24 лістапада 1980 года*

Дарагі Міхале!

Віншую цябе і тваіх родных з Новым годам. Няхай множыцца ў вашых хатах і вашых сэрцах шчасце і растуць добрыя справы на славу роду Петрыкевічаў.

Адчуваю тваім даўжніком па музею, але, павер, не змог ні вечара пасядзець за павелічальнікам, хоць купіў новы „krokus". Дай Бог у Новым годзе выслаць.

Уладзімір Калеснік
*31 снежня 1980 года*

Дарагі Міхась!

Дзякую табе шчыра за віншаванне і добрыя пажаданні.

Перш за ўсё добра, што ты падаў, нарэшце, голас. Быў тут нядоўга Калеснік, нават з Зосяй, і мы ўсё думалі-гадалі, дзе ты і што з табой – і не відаць, і не чуваць…

Што да прызбы і сонейка, дык не вельмі верыцца, што іменна ты будзеш сядзець ды грэцца – не сядзелася б. Абы трохі здаравілася, а ўзрост на сённяшні час не такі страшны. 1 чэрвеня мы тут, невялікім сяброўскім копам, адзначылі 70 год Якубу Міско. Дык ён яшчэ і працуе ў рэдакцыі, і піша (паглядзі, напрыклад, яго аўтабіяграфічную аповесць у „Маладосці" № 9 за 1980 год), і з маладзіцамі фліртуе, і чарку разумна бярэ. Або той жа Крапіва, які на сваім 85-годдзі выступіў з прадмовай і развітаўся з усмешкай: „Да наступнага юбілею!..".



**Міхась Петрыкевіч у Брэсце, 1982 г.**

Давай, браце, будзем так пацяшацца, бо і я ад цябе не далёка адстаў – 4 жніўня будзе 64. Здароўе – ніштото сабе, каб толькі не нага, што па-ранейшаму дакучае. Але жыць можна і працаваць таксама. Дома ўсё добра, дзеці ўсе трое ўладкаваны, у кожнага па ўнуку нам з Нінай: Наташына Дануся перайшла ўжо ў пяты клас, у Галі – твой цёзка, Міхась, 1 год і 2 месяцы, а ў Андрэя – Волечка, 7 месяцаў.

Пасылаю табе тры тамы свайго пяцітомніка, чацвёрты і пяты выйдуць сёлета. У томе трэцім – мы з табой. Будзь здароў!

Янка Брыль
*22 чэрвеня 1981 года*

Дарагі Міхале!

Даруй, што адказваю не адразу, але гэта таму, што тэкст мемарыяльнай дошкі на месцы дома Ігната Дварчаніна ў цябе, на маю думку, нармальны. Я б толькі паспрабаваў зрабіць яго больш лаканічным: „На гэтым месцы стаяла хата, у якой нарадзіўся асветнік, дзеяч рэвалюцыйна-вызваленчага руху ў былой Заходняй Беларусі Ігнат Дварчанін". Можна яшчэ паставіць дату нараджэння. Усялякія эпітэты: „вядомы", „выдатны" да мемарыяльнай дошкі не падыходзяць., бо яны агітуюць, а дошка павінна нагадваць, напамінаць пра тое, што кожны граматны ў грамадзянскім сэнсе чытач і сам ведае, прытым ведае грунтоўна. Такое напамінанне яму прыемна, бо падтрымлівае ў ім адчуванне гэтай грамадзянскай пісьменнасці, культуры, у той час як агітаванне за чалавека ці рэліквію, упісаную ў мемарыяльную дошку – раздражняе назолістасцю і трактаваннем чытача як нейкага прафана, які, бачыце, не ведае, што Дварчанін выдатны дзеяч.

У „Полымі” закралася недакладнасць з маім тытулам, відаць таму, што мяне вылучылі на атрыманне вучонага звання прафесара і мінскія вучоныя пра гэта недзе між сабой вялі гаворкі, а Сямёнава па-зямляцку прыбавіла мне авансам не толькі прафесара, але і доктара. Справа знаходзіцца ў ВАКу ў стадыі вырашэння.

Многа, Міхале, клопатаў, чакаю вось пары – 1 месяц – калі пачну афармляць пенсіюху і можа змагу жыць больш спакойна, змагу мець нейкі асабісты вольны час, хоць і тады літаратурнай працы не паменшае, а я раблюся ўсё больш марудлівым, як і належыцца старому чалавеку.

Рады, што ў цябе засталіся добрыя ўспаміны пра Брэст і нашы сяброўскія гавэнды. Трэба сустракацца часцей. Да лета.

Уладзімір Калеснік
*Брэст, 28 кастрычніка 1982 года*

Дарагі Міхась!

З канца красавіка жывем з жонкай у вёсцы, ва ўласным доме над Нёманам. Дзеці з унукамі таксама тут – грэюцца на вераснёвым сонейку. У Мінску бываю разы два ў месяц, пошту атрымліваю кожную пятніцу.Учора вярнуўся з Масквы, дзе ў мяне выдаецца двухтомнік, трэба было прачытаць больш за тысячу старонак карэктуры. Таму, дружа, і адказваю на тваё пісьмо з некаторым спазненнем.

Партызанскіх газет, выданняў Мірскага падпольнага райкама, мне ў архіве шукаць не трэба, бо яны ў мяне ёсць. Зраблю ксеракопіі і вышлю. Партызанскага здымка ў мяне няма, не было тады каму здымаць. Магу прыслаць адзін з маладых, пасляваенных. Але ж таксама трэба рабіць рэпрадукцыю. А буду я ў Мінску не сёння і не заўтра… Зрэшты, і ты ж пішаш, што збіраешся ў адпачынак, і ў цябе не надта з гэтым гарыць. Словам – праз нейкі месяц я змагу просьбу тваю выканаць. Напішы, ці згодзен ты з гэтым тэрмінам.

Трэба, трэба, Міша, было б пабачыцца, пагаварыць. Валодзя (маецца на ўвазе Уладзімір Калеснік. – С.Ч.) быў тут у мяне ўжо двойчы, у ліпені і ў жніўні, абодва разы з Зосяй (жонка Уладзіміра Калесніка. – С.Ч.). Недзе ў палавіне месяца збіраюся яшчэ наведаць наш „хутар”. Адна з яго студэнтак будзе адбываць практыку ў Турцы, дык у яго тут і будзе нагода яшчэ раз апынуцца ў родных мясцінах.

Дзякую за выразку. Гэта добра, што ўшановаецца Ігнат Дварчанін. Падумалася мне, што варта было б гэтай падзеі прыдаць большую вядомасць, хоць бы ў „Літаратуры і мастацтве”. Калі там такога паведамлення – пра адкрыццё дошкі ў Погірах – не было (я не сустракаў), напішы ім.

Усяго добрага. Прывітанне ад Ніны.

Янка Брыль
*2 верасня 1983 года*

Дарагі Міхась!

Прабач, што справа з прысылкай табе патрэбных матэрыялаў так зацягнулася. Я доўга чакаў, пакуль Жэня Крамко (ты, відаць, яго ведаеш?) прышле мне абяцаны нумар „Партызанскага жыгала”, якога ў мяне няма, пасля чакаў сваю знаёмую, якая дапаможа з ксеракопіямі, а калі дачакаўся таго і другога – прышлося пагрыпаваць.Двойчы не выляжаў грып, трэба было выязджаць па дэпутацкіх справах, а потым ён прымусіў мяне да павагі. Толькі што падняўся і сеў, нарэшце, да стала. А выйсці з дому спадзяюся ў бліжэйшыя дні. Тады адразу зраблю ксеракопіі ўсіх нумароў „Сцягу свабоды” і „Жыгала”, вышлю табе іх разам з некалькімі маладымі здымкамі, бо партызанскіх, як я пісаў табе, здаецца, у мяне няма.

Вось так, браце. Будзь здароў! Пабачыцца – заўсёды рад. Толькі што вельмі ж мы ўсе майстры збірацца…

Янка Брыль
*13 лістапада 1984 года*

Дарагі Міхале!

Я рады, што ў мінаючым старым годзе ты завяршыў адну з задумак жыцця, а яшчэ больш рады, што і ў новай экспазіцыі музея ты адразу пачынаеш бачыць недахопы, значыць забяспечваеш сябе работай, а ідэю жыцця напэўна падмацуеш новымі знаходкамі і рашэннямі.

Жадаю табе і тваім родным здароўя, шчасця, ахвоты рупіцца і рухацца наперад і ўгору.

Канешне, летам трэба будзе пабачыцца, а можа і раней. Я пішу цяпер нешта накшталт партызанскай дакументальнай аповесці. Буду прасіць, каб і ты пачытаў рукапіс, бо твая душа там жыве.

Уладзімір Калеснік.

25 снежня 1989 года

Дарагі Міхась!

Язэп Янушкевіч – малады літаратуразнавец, працуе ў Акадэміі Навук, хлопец талковы і энергічны.Цяпер ён займаецца, між іншым, кнігай успамінаў пра Караткевіча. І ты добра зробіш, калі напішаш, што помніцца. Мы з Калеснікам ужо напісалі. Будзь здароў!

Янка Брыль
*Брэст, 30 снежня 1984 года*

Дзякую, дарагі Міхась, за добрае пісьмо і выступленне Ландсбергіса, якое я прачытаў з цікавасцю і разуменнем. З пенсіяй ты мяне апераджаеш на 200 рублёў, у нас гэтыя справы ідуць павольней. Дай Бог выжыць! А пакуль што будзем трымацца і сябраваць, бо так – лягчэй. Усяго добрага!

Янка Брыль
*25 студзеня 1992 года* ■

# *Успаміны з 1987 г.*

***2.*** Пад канец чэрвеня па просьбе дырэкцыі Электрастанцыі Бакара, „Мегадэкс" у Варшаве пачаў высылаць да нас з Польшы многа розных спецыялістаў, каб памагчы індусам адбудаваць спаленую ў пажары збудаваную частку блока 65 мегаватаў. І пачалі запаўняць кватэры і мне ў кватэру наш кіраўнік даў маладога 25-гадавога электрыка з-пад Жэшава, Станіслава Гуменяка, які раней працаваў ужо на будове польскай электрастанцыі ,,Дольная Одра". Ён стаў спаць у другім вольным пакоі ў кватэры, дзе раней я жыў адзін. На электрастанцыі ён правяраў ці згодна з праектам індыйскія манцёры замацавалі драты на розных табліцах, пультах кіравання і размеркавальных устаноўках. Я жыў з ім разам да 7 студзеня 1987 г., пакуль не прыехаў да мяне з Варшавы на тры тыдні ў госці мой сын Георгій. Тады я перайшоў у другую кватэру ў іншым доме, дзе мы занялі разам цэлую кватэру на другім паверсе.

Кожны дзень ранкам пад'язджаў да нас індыйскі аўтобус з кандыцыянерам, забіраў нас і завозіў нас на працу ў Электрастанцыю, а пасля абеда прывозіў нас у нашы кватэры. Мы ішлі ў сталовую на прыгатаваны нам індускімі кухарамі абед. Пасля абеда мы мелі вольны час. Часам пасля абеда мы, два-тры чалавекі, заказвалі машыну з індыйскім шафёрам і ён вёз нас у блізкі невялікі горад, які называўся Час. Там было многа розных індускіх магазінаў. За горадам стаяў вялікі храм сікхаў. Калісь я з сябром з працы туды паехаў і сікхі нас прынялі і паказалі нам  гэты храм і ўнутры і звонку і нават дазволілі мне зрабіць у іх храме здымкі. Трэба было толькі залажыць там на галаву хустку і ўзяць у рукі іх меч.

Сікхі гэта народ, у якога айчынай з'яўляецца штат Пенджаб у Індыі, на паўночным усходзе Індыі, аднак жывуць яны ў многіх дзяржавах свету, не толькі ў Індыі. Іх рэлігіяй з'яўлаецца сікхізм. Гавораць яны між сабой на пенджабскай мове урду. Сікх у перакладзе азначае вучань. Яны адракліся ад індуізму, бо вераць толькі ў аднаго Бога, аднак не захецелі прыняць ісламу і з магаметанамі часта ваявалі. Тварцом сікхізму быў іх гуру Нанак (1469-1539), які ездзіў нават у Мекку, аднак ісламу не прыняў. Сікхам можа быць кожны чалавек, які прызнае іх веру. Аднак кожны сікх не можа стрыгчы валасоў на галаве, а звівае іх і трымае пад чалмой, не можа брыць барады, а падвязвае яе да падбароддзя, мусіць мець грэбень, які прытрымвае валасы пад чалмой, сталёвую бранзалетку на руцэ і кароткія штаны як ніжнюю бялізну, і мусіць мець пры сабе меч ці кінджал, схаваны пад адзеннем. Сікхійскія жанчыны не носяць сары, як індускі, а маюць спадніцу і на галаве хустку ці нешта іншае, што прыкрые іх валасы.

Сікхі абвінавачвалі індусаў у дыскрымінацыі. Іх партыя Акалі Дал вяла агітацыю за стварэнне дзяржавы Халістана. На пачатку 80 гадоў лідэр сікхійскіх сепаратыстаў Джарнайлу Сінгху Бхідранвале са сваймі паплечнікамі захапілі ў Пенджабе Залаты храм у Амрытсары і стварылі з яго крэпасць. Як я ўжо пісаў, што ў чэрвені 1984 г. індыйская армія захапіла штурмам гэты храм і забіла многа сікхаў і Бхідранвале. За гэта ў помсце сікхійскія целаахоўнікі прэм'ер-міністр Індыі Індзіры Гандзі застралілі яе ў Дэлі ў кастрычніку 1984 г.

Ды ў Бакара сікхі былі спакойныя, сачылі за ўваходам у Электрастанцыю, а ў горадзе Час многія з іх мелі магазіны, былі краўцамі і іншымі рэмеснікамі.

У той час у Маскве ад 5 да 20 ліпеня прайшлі спартыўныя ігры Добрай Волі.

10 ліпеня памёр у В'етнаме генеральны сакратар ЦК КП В'етнама Ля Зуан і 14 ліпеня выбралі новага сакратара ЦК КП В'етнама Чыонг Тыня.

У Польшчы 17 ліпеня Сейм прыняў трэцюю амністыю для палітычных вязняў.

20 ліпеня завезлі нас ранкам у Раджырапу. Над ракой Гангам стаяла амаль 30 індускіх невялікіх каляровых храмаў прысвячаных іх розным багам і багіням. У Індыі бодьшасць насельніства прызнае рэлігію індуізм, якая паўстала ў першым стагоддзі да н.э. У іх рэлігіі амаль стольк і багоў і багінь, колькі ў хрысціян святых угоднікаў. Самым галоўным богам лічаць яны Брахму (часта называюць яго Брамай), тварца сусвету, багоў і людзей. Але ён быццам бы цяпер сядзіць дзесь спакойна на небе і не цікавіцца нічым. Таму яму вельмі мала будуюць храмаў. Яго жонкай з'яўляецца багіня мудрасці і навук – Сарасваты. Усіх багоў іх і багінь яны малюць на карцінах з не менш чым дзвюма парамі рук, часам з двума або чатырма тварамі. Другім важным іхнім богам ёсць Вішну, а трэцім Шыва. Вішну мае жонку найпрыгажэйшую багіню дабрабыту Лякшмі, а жонкай Шывы з'яўляецца Парваты. Яны маюць сыноў – бога Картакію і бога Ганэша з галавой слана. Багіня Парваты можа змяняцца і мае 108 іншых імён, бывае добрай багіняй Дургай і часта змяняецца ў чорную багіню смерці Калі, якую малююць з ашыйнікам з чалавечых галоў.

У Раджырапе было сотні індускіх пілігрымаў, мужчын і жанчын. Многа жанчын у сары купалася ў рацэ. Пад гарой, на якой стаялі храмы іх багоў і багінь, было многа кіёскаў з рознымі таварамі і сталовая. Храмы багам і багіням былі невялікія, кожны з каляровым купалам і шпілем над купалам. У хра-

ме заўсёды была высокая каляровая карціна бога ці багіні і гарэлі пры ёй электрычныя лямпачкі. Толькі ля храма багіні Калі стаяла чарга індусаў, мужчын і жанчын, якія прынеслі ахвяры багіні, пераважна кветкі. Аднак адзін індус стаяў з невялікай казой, якую прывёз у ахвяру для багіні Калі. Храм Калі быў большы, чым іншыя храмы. З ахвярамі можна было ўвайсці ў сярэдзіну храма, адкуль выходзілі іх святары ў белым адзенні. Я ўспомніў толькі аб трох багах і іх багінях, а іх ёсць сотні.

Аб Раджырапе я напісаў верш ,,Раджырапа", які знаходзіцца ў маім зборніку вершаў ,,Эцюды падарожжа". З Раджырапы прывезлі нас вечарам у Бакара на абед і на вячэру.

Да нас заходзіла часта вечарам невысокая і худзенькая полька з Каліша, якая калісь вучылася ў педагагічным інстытуце ў Маскве. Яна там выйшла замуж за індуса. Ён пасля як інжынер працаваў у электрастанцыі Бакара і жыў з ёй у Бакара. І вось летам яны паехалі да яго бацькоў дзесь ля Бенгальскага заліва. І там яна і ён захварэлі малярыяй. Прывезлі іх у бальніцу ў Бакара. Ён вытрымаў хваробу і выздаравеў, а жонка памерла. І ўсе польскія працаўнікі ў Бакара бралі ўдзел у пахаванні яе на невялікім каталіцкім могільніку ў Бакара. Завёз нас туды наш індыйскі аўтобус. Набажэнства і пахаванне на індыйскай мове вёў індыйскі каталіцкі ксёндз. Бацькі яе з Каліша не прыехалі, былі на пахаванні толькі мы і сям'я яе мужа і яе муж. Помню, што пры канцы пахавання змачыў нас дождж. Уцяклі мы ў аўтобус. У чэрвені пачаўся мусон, там тады часта ішоў дождж.

У індусаў няма могільнікаў, бо яны паляць на кастрах ля ракі целы мёртвых, а попел кідаюць у раку. Я быў сведкам некалькі раз на вуліцы ў Часе, як неслі на насілках да кастра ля ракі мёртвае цела мужчыны ці жанчыны і за насілкамі ішлі сям'я і сваякі мёртвага мужчыны ці мёртвай жанчыны.

1 жніўня ў Польшчы павысілі цэны на мяса і мясныя прадукты.

16 жніўня ў катастрофе збітага мяцежнікамі самалёта Фокер Ф-27 у Малакалі ў Судане згінула 60 асоб.

20 жніўня ў Эдмантоне ( ЗША, штат Аклахома) працаўнік пачтовай службы Патрык Шэрыл застраліў 14 працаўнікоў пошты, у якой ён працаваў, 6 асоб раніў, а пасля сам сябе застраліў.

21 жніўня ў Камеруне на возеры Ніос ад вуглекіслага газу, які пачаў выдзяляцца з возера, згінула 1 700 асоб.

31 жніўня ў Цемескай бухце ў Новарасійску пасля лабавога сутыкнення з грузавым караблём у катастрофе парахода ,,Адмірал Нахімаў" згінула 423 асобы.

31 жніўня ў Каліфорніі над Серытас самалёт Даглас ДЦ - 9 кампаніі Аэрамексікас сутыкнуўся з самалётам Піпер ПА-28. Згінула 82 асобы (на зямлі згінула 15 асоб), а 8 асоб было параненых.

1 верасня дырэкцыя электрастанцыі Бакара выслала мяне на 10 дзён на кансультацыю. ў бюро праектаў у Бамбеі. Купілі мне білет на самалёт з Ранчы ў Дэлі, месца ў гасцініцы ў Дэлі, білет на самалёт з Дэлі ў Бамбей і білеты на самалёты з Бамбеі ў Дэлі і з Дэлі ў Ранчы і месца ў гасцініцы ў Дэлі на 14 верасня. Гасцініцу ў Бамбеі таксама яны аплацілі. Як калісь я ехаў у Коту, так і цяпер завезлі мяне ў гасцініцу ў Ранчы, дзе я пераначаваў і пасля самалётам паляцеў у Дэлі. З аэрадрома пры дапамозе таксі даехаў я ў гасцініцу ў Дэлі, пераначаваў там і ранкам на таксі паехаў на аэрадром у Дэлі і самалётам прыляцеў на аэрадром у Бамбей, на якім я ўжо быў, калі ляцеў з Масквы ў Калькуту. З аэрадрома ў Бамбеі наняў я таксі і даехаў у іх бюро праектаў. Адтуль мяне пасля абеда завезлі ў блізкую гасцініцу з кандыцыянерам, дзе я начаваў 10 сутак. Працы было многа, так што я прыходзіў у гасцініцу, калі ўжо цямнела на вуліцах.

Бамбей ляжыць на захадзе Індыі ў штаце Махараштры на берагу Аравійскага мора. У 16 стагоддзі панавалі тут партугальцы і яны называлі горад Бомбаін, а англічане пасля змянілі назву на Бамбей. 9 год пасля майго наведвання горада, у 1995 годзе індусы змянілі зноў назву Бамбеі на Мумбай. у гонар індуісцкай багіні Мумбы. Так горад называецца цяпер.

Гарад вельмі цікавы, як на Індыю, з шырокімі вуліцамі і ў ім ёсць многа зелені. На тэрыторыі форта знаходзяцца дзяржаўныя будынкі, банкі, цікавыя магазіны, універсітэт. А на поўнач ад форта ляжаць нецікавыя будынкі індыйскага тыпу. Уздоўж усходняга берагу выспы распалажаны склады і докі. Цікавы тут Чор-базар з рознымі таварамі.

Я жыў недалёка ад вельмі прыгожага фантана Флора на пляцы Хутома Чоук ў паўднёвай частцы горада недалёка Форта. Мала аглядаў горад днём, бо быў заняты ў праектным бюро. Вяртаючыся меў некалькі гадзін часу ў Дэлі, каб пахадзіць па сталіцы Індыі. Пабачыў шырокую вуліцу, дзе стаяць пасольствы савецкае і недалёка ад яго амерыканскае, і там зразумеў, як лёгка было ўцячы з савецкага пасольства ў амерыканскае дачцэ Сталіна Святлане Алілуевай.

15 верасня я зноў вярнуўся з Бамбея ў Бакара і сустрэўся з С. Гуменякам на кватэры.

А 5 верасня ў Пакістане на аэрадроме ў Карачы пакістанскія антытэрарысты адбілі захоплены палестынскай групай Абу Нідаля самалёт Боінг-737 з 379 пасажырамі. Аднак з рук тэрарыстаў згінула 20 пасажыраў, а 120 пасажыраў было параненых.

6 верасня два палестынскія тэрарысты ўварваліся ў Стамбуле ў Турцыі ў сінагогу ,,Неве Шалон" і застралілі ў ёй у час шабата 22 жыдоў, а 6 асоб паранілі.

11 верасня у Польшчы аб'явілі амністыю 225 актывістам апазіцыі, а 14 верасня павысілі на 15 % цэны алкаголю. У чыгуначнай катастрофе ў Лохаве згінула 2 пасажыры, а 7 было параненых.

17 верасня ад бомб ісламскіх тэрарыстаў гіне ў Парыжы 7 асоб, а 51 была паранена.

29 верасня міністрам культуры ў Польшчы стаў прафесар Аляксандр Краўчук.

Ад 4 да 7 кастрычніка рымскі папа Ян Павел II быў з трэцім візітам ва Францыі.

6 кастрычніка паблізу Злучаных Штатаў Амерыкі патанула савецкая падводная лодка з балістычнымі ракетамі К-219.

7 кастрычніка зрабілі нам экскурсію ў храмы джайнаў, якія знаходзяцца ля гары Парашнат. Джайнізм гэта самая старая рэлігія. Першы Вялікі Джайн паводле іх легенды жыў 23-24 тысячы год перад намі. Пасля яго жыло яшчэ 23 іх вялікіх настаўнікаў. Астатні настаўнік называўся Махавір і жыў ён у тым часе, што і Гаутанама Буда, у 6 стагоддзі н.э. Джайны маюць многа сваіх святых гор і гара Парашнат, на якую мы прыехалі, гэта адна з іх. Кіламетраў 10 ад гэтай гары джайны пабудавалі 24 вялікіх і цікавых белых храмаў са званамі ў гонар усіх іх Вялікіх Настаўнікаў.

Джайны не вераць у багоў і сцвярджаюць, што сусвет і зямля існавалі вечна і будуць вечна існаваць. Аднак вераць у пекла і рай, у якія пападае душа чалавека ці іншай жывой істоты пасля смерці. Многія з іх з'яўляюцца аскетамі і некаторыя джайны ходзяць голымі. Аднак я бачыў толькі голых мужчын, нідзе не сустрэў голай жанчыны. Манахі джайны заўсёды маюць у руках невялікую мятлу з пер'яў і калі ідуць, то замятаюць перад сваймі нагамі зямлю, каб не наступіць на нейкую жывую казяўку ці мураша, бо гавораць, што яны таксама маюць душу і нельга іх забіць. Маюць таксама на губах завязаны паясок з густой сеткі, каб у рот не папалі і не згінулі нейкая мушка ці камар. Нельга ім забіць камара ці муху і іншую жывую істоту. Калі нехта ўваходзіць у іх храм, то мусіць абавязкова зняць з ног абутак, скураны рэмень са штаноў і іншыя скураныя прадметы і пакінуць іх звонку храма.

Калі мы агледзелі белыя вялікія храмы джайнаў, то я са Станіславам Гуменяком і іншым адным польскім працаўнікам рашылі пайсці на гару Парашнат. Ішлі мы па дарозе праз невялікі лес, усё ўверх і ўверх, сустракалі па дарозе розныя малыя храмы джайнаў, у якія толькі заглянулі і ішлі наперад. Толькі пры самай вяршыне гары падход быў стромы. Метраў 30 ад вяршыні быў невялікі храм джайнаў са скульптурай, а пасля на самай вяршыні 1 366 м. стаяў другі храм. У ім гарэлі свечы і быццам пахаваны быў у гэтым храме 23 настаўнік джайнаў. Стаіць цяпер у ім статуя Тытрганкара. Побач сядзелі два іх святары на зямлі ў белым адзенні, з сеткамі на вуснах, трымалі ў руках мяцёлкі з пёраў.

З гары мы хутка сходзілі ўніз і калі сышлі, то іншыя польскія працаўнікі ўжо нас чакалі. Калі селі мы ў аўтобус, то я выпіў больш літра вады, адчуваў такую смагу.

10 кастрычніка ў землятрусе ў Сальвадары згінула 1 500 асоб.

15 кастрычніка ў Рэйк'явіку (Ісландыя) сустрэліся прэзідэнт ЗША Рональд Рэйган з савецкім сакратаром ЦК КПСС Міхаілам Гарбачовым.

19 кастрычніка ў катастрофе самалёта Ту-134 у гарах Лебомба ў Паўднёвай Афрыцы згінуў прэзідэнт Мазамбіка Самора Махаль і 33 іншыя асобы, а 10 асоб было параненых.

20 кастрычніка ў катастрофе самалёта Ту-134 ў Куйбышаве (Самара) згінула 70 асоб.

2 лістапада ў Іране ў гарах Загедана ў катастрофе іранскага ваеннага самалёта Ц-130 Геркулеса згінула 103 асобы.

6 лістапада ў катастрофе верталёта Боінг ЦГ-47 Чынук згінула 43 працаўнікоў свідравальнай платформы на Паўночным Моры і 2 лётчыкі.

8 лістапада адсвяткаваў я сваё 60-годдзе ў савецкім клубе, дзе яны святкавалі свята Кастрычніцкай Рэвалюцыі 1917 г. Быў прыём і танцы.

26 лістапада іранскі снарад, які разарваўся ў Багдадзе ў Іраку, забіў 103 асобы.

12 снежня ў катастрофе савецкага самалёта Ту-134А ва Усходнім Берліне згінула 70 асоб.

19 снежня ўлады СССР дазволілі, каб Андрэй Сахараў вярнуўся ў Маскву з Горкага.

23 снежня самалёт Рутан Ваяжэр першы раз абляцеў навокал Зямлі без прызямлення і без запраўкі гаручым у паветры.

24 снежня польскія працаўнікі ў Бакара паставілі ля нашых кватэр вялікія брызентавыя палаткі, уставілі туды сталы і крэслы і сустрэлі мы там каталіцкія Каляды.

25 снежня многія польскія працаўнікі Бакара ездзілі вечарам нашым індыйскім аўтобусам у індыйскі каталіцкі касцёл у горадзе Бакара на каталіцкае набажэнства на індыйскай мове на Нараджэнне Хрыстова

25 снежня ў катастрофе іракскага Боінга 737 у Саудскай Аравіі ў горадзе Арар згінула 63 асобы.

26 студзеня першы раз выляцеў у паветра савецкі транспартны самалёт Ан-124 Руслан.

30 студзеня ў чыгуначнай катастрофе пад Модлінам у Польшчы згінула 6 асоб, а 10 было параненых.

31 студзеня ў Кракаве паўстаў музей фатаграфіі.

31 студзеня ў Сан Жуан у Партарыка ў пажары гасцініцы згінула 97 асоб, а 140 было параненых.

**Дзмітры Шатыловіч**

*(Працяг будзе)*

# Васіль Петручук

# Крышынкі

***65*. *Зноў «абяцанні»*.** 25 снежня 1989 г., у 19 гадзін і 29 хвілін патэлефанаваў да мяне нейкі «пан» і сказаў: «Ты, бандыто, за пісане до прасы такіх артыкулув спотка це то само, цо румуньскего прэзыдэнта Чаўшэску!» і адклаў слухаўку.

Аднак хтосьць баіцца праўды і вельмі не хоча, каб іншыя пра праўду злачынства ведалі. Пагрозы не з’яўляюцца нічым прыемным, тым больш, што 18 лютага 1983 года, пад вечар на вуліцы Вясёлай, калі мая жонка, ласая на мяса, паслала мяне ў магазін пабачыць ці яно ёсць, там мне трох мужчын так улупілі, што я чатыры месяцы кульгаў. Дадам, што ў той час, калі мяне трапалі, а я адбіваўся, ішоў з працы Васіль Баршчэўскі і ўсё бычыў. Замест мне дапамагчы, крыкнуў: «Звані ў міліцыю, бо я табе не памагу!» І пайшоў. А быў маім даўжніком. Паводле яго, я павінен сказаць: «Панове, пачакайце, я паклічу міліцыю».

Я пасля гэтага выпадку нават не пайшоў у міліцыю са скаргай, бо ведаю, што міліцыя толькі ўцешылася б, што Петручук дастаў і столькі. Усе мяне ведалі як актыўнага грамадскага дзеяча, які і міліцыю крытыкаваў. Мяне нават камендант Гарадскога праўлення МО Януш Цындляр «абяцаў», што за прывезенае з БССР ружжо пасадзіць, калі не здам яго ў камісійны магазін. А пасля ўзнагародзіў спецыяльнай адзнакай ОРМО. А зараз пры сустрэчы гаворыць мне на «ты».

На заканчэнне гэтага кароткага эпізоду хачу сказаць, што ў сваёй дзейнасці заслужыў я на вялікую пашану, бо аж з многімі рознага тыпу ўзнагародамі, а ў другіх на пагарду аж з пагрозай забойства. А я ведаю цяпер тое, што каб сядзеў ціха і спакойна, то не заслужыў бы ўзнагарод аб якіх не думаў працуючы грамадска днямі і вечарамі, але і не меў бы ворагаў з боку чужых людзей...

Але, але, Васіль, прачніся! Пішучы праўду, чалавек не павінен мець ворагаў. Але яны, гэтыя людзі, якіх паказваеш хочаш-няхочаш, з’яўляюцца тваімі ворагамі, прытым гатовымі на ўсё. Ну і чорт з імі.

Але як прыкра чалавеку, калі ворагі плацяць злом за дабро ў канкрэтных выпадках, і не яны табе вораг, а ты іхні вораг; не ты іх «абрабляеш», а яны цябе. Каб не быць галаслоўным, прывяду пару прыкладаў не з чыёгась, а са свайго паршывага жыцця. Жыцця? Яшчэ раз, выразна хачу сцвердзіць, што майго існавання жыццём не назавеш, а менавіта існаваннем і то вельмі цяжкім і крыўдным. Бо не павінна называць крыўдай, абідай таго, што цябе хтосьці наб’е далонню ці ўлупіць паскам па мяккім целе за штосьці дрэннае, але крыўдна, калі б’юць і ад розных вызываюць як Іван Шэшка званы немцам, з ласкі на ўцеху.

Гэта, што напісаў аўтаручкай водзячы рукой і носам, бо давялося бачыць толькі крышку адным вокам, напісаў учора. І пакінуў, бо змучыўся. Але думаю, што пані Міра Лукша, наша паэтэса і рэдактарка, мяне расчытае...

Тут будзе ўсяго шалтай-балтай, як на злосць шаноўнай Міры, бо ўсё намаўляе мяне да пісання, як бы не бачыла, які я стары мяшок поўны хвароб. Калі хоча мяне такога эксплуатаваць, то няхай чытае.

О, бачыце, якая паўза – ад 26 верасня, да сёння – 21 кастрычніка 2013 года. Усё штосьці мяшала сесці да друкавальнай машынкі – калі не візіт у лекара, то хуткая ў шпіталь, або звычайная лянота – замест пісаць чытаю. І крыжаванкі. І вось у час гэтай паўзы аднойчы ноччу, перад выслуханнем Б. Валашанскага «Сенсацыі XX века», а 3-ай гадзіне, заплюшчыў я вочы і тыцнуў пальцам у адно месца зборніка кніжак, каб наўгад выбраць, што маю чытаць. Папаў на Літаратурны альманах н-р 2 «Белавежы».

Чытаць то я яго напэўна чытаў, але калі «вылясаваў», то і дзякую, бо з прыемнасцю яго перагляну. І так, мінуўшы «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча, бо гэта ёсць у мяне ў іншым месцы, пачаў ад Алеся Барскага праз Яшу Бурша, Мікалая Гайдука, Юрку Зубрыцкага, Уладзіслава Дваракоўскага, Міхася Красоўскага, Валодзю Паўлючука і ўсіх іншых аж да Яна Чыквіна, Віктара Шведа ды Людвікі Войцікавай.

Гэта заняло мне шмат часу, але добра, што прачытаў, бо ўрэшце дайшло да мяне, што хтосьці памыліўся і ўнёс мяне ў спісак членаў Праславутай «Белавежы». Цяпер ужо «Белавежа» не тая і не такая, але слова яе трывае і яшчэ доўга трываць павінна, бо далучаюць да яе маладыя, здольныя і талентам роўныя старым прайдзісветам. Мне, маленькаму чалавечку, трэба толькі цешыцца, што я неяк выпадкова апынуўся ў іх асяроддзі, ды на зло ворагам за першую кніжку атрымаў узнагаролду Беластоцкага ваяводы і шмат прыгожых рэцэнзій. І здзівіла мяне ды падняло на духу тое, што на польскай мове была выдана тыражом у 20 000 экземпляраў. А ўзнагароду ваяводы ўручала мне пані магістр Марыя Маранда ў філармоніі, а кветкі – усхваляваная пані магістр Валянціна – сённяшняя жонка таксама нашага славутага паэта Віктара Шведа. Шчасце асталося б шчасцем, а прыгажосць прыгажосцю, калі б не гэта, што беднаму Ванюшке то і ў супе камушкі – як рускія кажуць, а я падаю па-беларуску. Бо справа

ў тым, што на маю сціплую асобу насунулася чорная, злавесная хмара – мяне спачатку паціху, а пасля ўсё смялей пачалі называць (не ў вочы, але паціху) штэпселем. Хаця не, я забыўся, што адзін з сяброў пасля пасяджэння ў памяшканні клуба ў вочы сказаў (прыхільнк Салідарнасці): «Wiem, kim jesteś, więc weź i mnie przesłuchaj, no?" – „Слухай, пшыяцелю, – я адказаў, – калі ты будзеш разрабляць, то не я буду цябе дапытваць, а нехта іншы, бо я не маю такой патрэбы». І мы змоўклі, а пасля ён аглянуўся, што мяне мог абразіць ды абярнуў гэта ў жарт. Не ведаючы, як гэты ягоны «жарт» паўплываў на маю псіхіку, але я маўчаў. Маўчаў нават тады, калі пані Альжбета Казлоўская-Свянткоўская, напаткаўшы мяне пры кіёску з агароднінай, вырачыўшы вочы сказала, лепш будзе сказаць – адказала на маё «дзеньдобры», што мяне баіцца.

У такой сітуацыі мне было лёгка здагадацца, што Літаратурны клуб Саюза польскіх пісьменнікаў мае мяне за тайнага агента сярод беластоцкай інтэлігенцыі, і гэта было адчувальна ў адносінах да мяне з боку амаль усёй пісьменніцкай і журналісцкай інтэлігенцыі, апрача пані Веры Леўчук-Валкавыцкай, Яўгена Шульборскага і Яна Леанчука, калі ён не скрываў сваіх адносін да мяне сваёй усмешкай. Але хіба так, бо ніколі ў нічым мне не памог у час, калі займаў функцыю старшыні Ваяводскай уравы Саюза польскіх пісьменнікаў. Раз нават прысягаў, што няма грошай калі я прасіў памагчы зрэфінансаваць адну маю кніжку выданую мной на свой кошт. Я ведаю што грошы былі. Але не адносіўся да мяне ардынарна як чалавек культурны. Іншыя не вытрымоўвалі, каб не паказаць таго, што «ведаюць» пра маю функцыю штэпселя.

Я ў сваю чаргу ведаў аб гэтым, што такая арганізацыя як напрыклад Саюз літаратараў не можа існаваць без нагляду спецслужб. І вось, у сваёй падгатоўцы да здабыцця інфармацыйнай крыніцы аб гэтым асяроддзі знайшлі падхадзяшчую асобу і завербавалі, а дзеля яе прыкрыцця, прытым шчыльнага прыкрыцця, узялі ды «падпалілі» мяне ў слушным перакананні, што ўсе ў гэта паверацъ, і так сталася. Я нёс на сваім гарбе цяжар няслаўнай, а наадварот, агіднай функцыі даносчыка, а фактычны шпік атрымоўваў падаркі, а то і грошы.

Каб лаяльна гэта пацвердзіць, аб чым ужо не адзін раз я мармытаў, то прывяду тут адзін факт. У 1992 годзе зайшоў я ў рэдакцыю «Нівы» і там застаў пакойнага ўжо, слаўнага спадара Сакрата Яновіча. Падаў я яму руку, а ён сваім малаіранічным спосабам спытаўся: «Ты яшчэ сюды прыходзіш? Ужо ж не трэба даносіць ні да камітэта, ні да бяспекі». А я яму адказаў так: «Крацік, калі адкрыюць архівы, тады пабачым хто куды даносіў». Я не хачу адносіцца да самай практыкі спецслужб у іх дзейнасці разведкі і контрразведкі, бо асабовыя крыніцы найкаштоўнейшыя ў гэтых службах. Але маю боль і прэтэнзіі да тых, хто мяне падставіў пад такі ганебны ўдар, які агідным плямай адбіўся не толькі на маім гонары, але і на здароўі. Але, на жаль, беднаму заўсёды вецер у вочы. Руския гэта называюць так: «Бедному Иванушке и в п...е камушки».

Дапоўніў маю сітуацыю мне, хаця ўжо непатрэбна, пакойны Міхась Шаховіч. Аднойчы выклікаў мяне на сустрэчу (тэлефанічна) у парк каля татра імя Вянгеркі і дэталёва высветліў сітуацыю вакол мяне. А калі я сказаў, што ўсё ведаю і прывёў яму прыклад Сакрата, то Міхась зарэагаваў вось так: «Справа ў тым, што Яновіч ёсць такім якім ёсць, але ён ужо цяпер цябе бараніць ад паклёпаў іншых». Я Міхасю адказаў, дзе я ўсіх плеткароў маю і развітаўся з ім, не ведаючы, што апошні раз.

*(Працяг будзе)*

# *Ліст да родзічаў*

## (Пасля адведзін)

**Дарагія нашы!**

Тая наймілейшая краіна, дзе завязана пупавіна. Няма большага духовага задаваленьня, як адведкі родных на роднай зямлі. Мы з Надзяй ўдзячныя Богу, што нам пасьля чатырохгадовага перапынку пашчасьціла пабачыцца з вамі, пабыць у розных мясьцінах Беларусі, пажыць успамінамі, пацешыць вочы незабыўнымі краявідамі, але адначасова з болем у сэрцы пераканацца ў адыходзе з практычнага ўжытку таго, што нам найдаражэйшае – роднай мілагучнай мовы.

Дарога назад у Амэрыку была камфартабельнай. Польская авіялінія абнаўляе цяпер свой флёт, і з Варшавы ў Нью Ёрк мы ляцелі новым бэінгам 787. Гэта той, у якога на пачатку году сёлета былі ўсё нейкія праблемы з батарэямі. Нарэшце наладзілі. Бэінг 787 – гэта вялічэзная прасторная махіна. На борце 400 пасажыраў. Выгодныя сядзеньні, індывідуальныя тэлеэкраны з багатым выбарам праграмаў, добрая яда (да выбару дзьве стравы, розныя напоі, уключна зь віном і гарэлкай). Словам, ад старту да фінішу ўсё наша лі-

пеньска-жнівеньскае падарожжа – 10 дзён у Польшчы зь Беластокам і 20 у Беларусі – прайшло гладка, прыемна й памятна. Хочацца верыць, што сустрэча наша была не апошняй...

Цяпер тут знаёмыя пытаюцца: „Ну, як там у Беларусі?" Пытаньне ёмістае. Можа й вам будзе цікава пачуць наш адказ.

Мушу сказаць, што за мінулыя чатыры гады зьмены ў вас відавочныя. Значна пашырыўся й мадэрнізаваўся менскі аэрапорт (зь ім мы пазнаёміліся пры адлёце): значна пашырэла электроннае таблё з новымі рэйсамі, больш кіёскаў з сувэнірамі, крамаў з замежнымі бутэлькамі алькаголю й парфумэрыі, перакусачная, банкаўскае вакно ды іншае.

Пабольшала аўтастрадаў. Новыя, чыстыя, з гладкімі палосамі траўнікаў паабапал. Далейшая хада дарожнага будаўніцтва навідавоку. Прыбыло будаўнічай тэхнікі. Галоўнае, чаго не стае – гэта аўтамабільнай і турыстычнай абслугі. Дзясяткі кілямэтраў без рэстаранчыка, без запраўчай станцыі, бязь месца адпачынку. Па-ранейшаму скупыя, або блытаныя, або зусім адсутныя на бакавых дарогах паказнікі кірунку.

У Менску адразу ж кідаюцца на вочы гмахі новых жыльлёвых кварталаў. Гарадзкія ўлады ўжо нават робяць захады, каб прыпыніць крыху гэты будаўнічы бум.

На вуліцах сталіцы пабольшала аўтамабіляў з павышанай доляй навейшых. Амаль у кожнага пешахода пры вуху мабільнік. Людзі выглядаюць крыху лепш апранутымі. І ўсе паранейшаму з авоськамі або мешкаватымі чыноўніцкімі партфэлямі.

Мадэрнізацыйныя зьмены заўважаюцца і ў правінцыі. Зьявіліся кватэрныя туалеты там, дзе іх яшчэ нядаўна не было, душы зь цёплай вадой, машыны да мыцьця бялізны. Мы былі прыемна зьдзіўленыя, пабачыўшы ў раённых Жыткавічах гіпермаркет (па-нашаму – супэрмаркет). Вялікі выбар прадуктаў, хуткая абслуга. У суседнім Тураве пабудаваны італьянскі завод малочных прадуктаў; тут жа побач і новенькая крама з малочнымі й мяснымі вырабамі. Праўда, калі гаварыць пра заробкі й цэны, то ружовы колер зьнікае. Вочы бачаць, а кішэня не дазваляе. Сямейныя бюджэты трашчаць. Уздоўж дарогаў (падобна як і на Беласточчыне) сёй-той залатвае бюджэтныя дзіркі продажам „дароў" лесу. Але ж такіх прадаўцоў зьнікомая колькасьць. Лес далёка ня ўсім даступны. Дый транспарт каштуе. Шмат якія гараджане займаюцца „нелегальным вулічным гандлем" (тэрмін менскай адміністрацыі), змагацца зь якім улады заклікалі нядаўна міліцыю ды падаткавую інспэкцыю.

Як вынік сацыяльнай дыфэрэнцыяцыі й росту жыцьцёвага ўзроўню часткі насельніцтва, растуць і цэны. А рост цэнаў даймае якраз найбяднейшых. Жанчына ў харчовай краме: „А што ж гэта такое?! Учора батончык быў пяць тысячаў, а сёньня ўжо сем! Вось табе й падвысілі пэнсіі..." Адна рука дае, другая забірае.

Часткава прыватызаваная камэрцыя закідала рынак замежнымі таварамі, асабліва галянтарэйнага кшталту (крэмы, туалетныя прылады, біжутэрыя й г.д.). Папраўілася тэхналёгія апрацоўкі й абсталяваньня кватэраў. Замежныя тавары нагэтулькі пераважаюць сваімі якасьцямі, што ўрад мае праблему з гандлёвым дэфіцытам: валюта ўцякае за мяжу. Урад змагаецца з гэтымі ўцёкамі рознымі спосабамі, у тым ліку этыкеткамі ў крамах: „Зроблена ў Беларусі". Беларусы, будзьце патрыётамі!

За мяжу ўцякае ня толькі валюта, а й маладыя людзі ў пошуку нармальных бытавых умоваў. Наяўны прыклад: настаўнік-пачатковец зь месячнай зарплатай 175 даляраў шукае кватэры ў Менску й даведваецца, што найтаньнейшая аднапакаёўка будзе каштаваць яму 200 даляраў. Вось і ўладкуй свой быт, калі ня маеш дапамогі ад бацькоў зь дзядамі.

Густой заслонай над беларускай зямлёй павісла расейская мова й русіфікаванае маўленьне. Дэнацыяналізацыйныя ўплывы дабраліся ўжо да фанэтыкі, да цьвёрдых і фрыкатыўных гукаў беларускай мовы. У моўна зьнявечаным Менску засталіся адно бледныя сьляды нацыянальнага моўнага скарбу – на некаторых шыльдах, на вулічных табліцах, дзяржаўных будынках ды ў гарадзкім мэтро, дзе яшчэ лашчыць слых прыемны мужчынскі барытон: „Асьцярожна! Дзьверы зачыняюцца. Наступная станцыя Купалаўская". Пры ўсім гэтым варажнечы да нашай беларускай мовы, якою мы ўсюды карысталіся, мы не адчулі. Папулярнасьць расейскае мовы, апрача ўсяго іншага, падтрымліваецца фактам, што Расея застаецца, як сказаў адзін суразмовец (які займаецца вырабам мэблі), „бяздонным рынкам збыту тавараў". Рынкавая мова – мова бытавых патрэбаў, штодзённай практыкі, мова масаў. А мова нацыянальнай спадчыны, калі яе актыўна не падтрымлівае ўрад і мясцовыя ўлады, застаецца аб'ектам абароны з боку лічаных адзінак і малалікіх групаў грамадзянаў. Трэба падкрэсьліць, што такая абарона паступова пашыраецца ў выніку праводжаньня, у дадатак да агульных заяваў пра русіфікацыю, канкрэтных практычных абарончых мерапрыёмстваў, як гэта робіць Таварыства Беларускай Мовы (ТБМ) пад старшынствам сп. Алега Трусава, або Згуртаваньне беларусаў сьвету „Бацькаўшчына" пад старшынствам сп-ні Алены Макоўскай. Абаронцы беларушчыны апіраюцца на заканадаўства ці проста праводзяць мерапрыемствы, што не пярэчаць законам. Падобныя захады даюць пазытыўныя вынікі, як нам было сказана. З псыхалягічнага боку такая тактыка вельмі карысная, бо яна дае, хоць і малыя, але наяўныя вынікі, якія трымаюць абаронцаў на духу.

Ня выключана, што акцыя маламаштабнай абароны мовы ўзьдзейвае на зьмяншэньне беларусафобіі.

Ня трэба таксама выключаць з аналізу й магчымага пашырэньня ў грамадзтве разуменьня беларускай гістарычна культурнай анамаліі – існаваньне тытульнай дзяржаўнасьці бяз тытульнай мовы.

Несамавітым аднак застаецца яшчэ сярод многіх беларусаў інтэлектуальны вывіх у паглядзе на нацыянальную мову. І на самой рэчы: з далёкіх вякоў як і зь нядаўных дзесяцігодзьдзяў гучаць ва ўнісон галасы найвыдатнейшых постацяў айчыннай гісторыі, што родная мова Богам дадзеная. Пра гэта казалі й кажуць Францішак Скарына, Леў Сапега, Францішак Багушэвіч, Янка Купала, Рыгор Барадулін ды мноства іхных сучасьнікаў. Але мазгі ў нашых людзей нагэтулькі затуманеныя русіфікацыяй (або палянізацыяй), што нават тыя, хто глыбока верыць у Бога, не разумеюць свайго першароднага грэху, калі яны здаюць на пагібель Божы дар, родную мову.

На гэтым пакуль што спынімся. Паспрабуем прасеяць празь сіта развагі ўсё бачанае й чытае. Ды будзем жыць далей думкамі й мроямі пра родную Беларусь.

**Янка Запруднік**

Самэрсэт, кастрычнік 2013



# *Рэцензіі, прэзентацыі*

## Białoruś – Miłość i marazm

– To Białorusini mają swój własny język? – zapytał mnie dziennikarz poważnej, ogólnopolskiej gazety. Siedzieliśmy na lotnisku w Kijowie, po zakończeniu spotkań o charakterze biznesowym, w oczekiwaniu na samolot do Warszawy. Z ikony, czujnym i łaskawym okiem, spoglądał na nas św. Mikołaj Cudotwórca. Do arcybiskupa Miry Licyjskiej szczególnie gorąco modlą się podróżujący lądem i morzem, osoby znajdujące się w niewoli wroga a także cierpiący na choroby oczu. Podczas podróży z Hanną Kondratiuk (dla przyjaciół – Handzią), wielokrotnie spotykałyśmy na swojej drodze ślady żywego kultu urodzonego w III wieku n.e. syna bogatych rodziców, który hojnie wspierał ubogich, odważnie wstawiał się za niesprawiedliwie uwięzionymi i ratował ludzi od katastrof.

Chcecie uratować się od prywatnej katastrofy? Zapraszam do podróży z Handzią. Zachęcam śmiało i z pełnym przekonaniem, bo wędrówka z



**Hanna Kondratiuk ze swą najnowszą książką**

nią ocaliła mnie od nieszczęścia, jakim byłaby unifikacja, utrata siebie i własnej tożsamości. My, mieszkańcy Wschodu, miewamy z tym problemy. Ileż to nocy przegadanych: czy my Polacy, Białorusini czy Ukraińcy… Są tacy, którzy jasno i wyraźnie deklarują, że do życia i szczęścia nie potrzebują tego rodzaju definicji. Co więcej, bywa ona dla nich zbędnym balastem. Ale i oni tęsknią za tym, co prawdziwie zakorzenia nas we wspólnej, duchowej przestrzeni. Intuicyjnie czujemy, że tam właśnie jest prawda. I że tylko w jej obliczu można być naprawdę sobą i przeżyć swoje życie w pełni. Pięknie. Najpiękniej, jak potrafimy.

No dobrze, ale co ma do tego Białoruś? Jaki jest związek pomiędzy życiem w pełni a białoruską prowincją? Większy, niż można byłoby przypuszczać. Grodno, Lubcza, Mir, Różany, Krewo… Miasta, miasteczka, wioski – silnie zakorzenione w historii niejednego narodu: polskiego, żydowskiego, białoruskiego, ukraińskiego. Temat delikatny, jak sąsiedzka zgoda. Tylko mądry człowiek dotknie go nie obrażając innych a zaciekawiając własnym punktem widzenia. Hanna Kondratiuk ma tę nieocenioną umiejętność, że nie narzuca czytelnikowi własnej interpretacji białoruskiej rzeczywistości. Chociaż całym sercem jest Białorusinką, nie upiększa i nie koloryzuje współczesności. Wychodzi z założenia, że piękno broni się samo i nie potrzebuje dodatkowych ornamentów. Jednocześnie, mieszkając od urodzenia w Polsce, autorka nie ulega pokusie moralizowania i krytyki systemu politycznego Białorusi. Rzeczywistość sama bezwstydnie robi striptiz i nieświadomie prezentuje własną absurdalność. Nie brak jej też pięknych stron. Wiary w zwycięstwo prawdy, jej delikatności i ludzkiego trudu włożonego w ochronę tego, co prawdziwe i piękne. W reportażach Handzi spotkamy ludzi, którzy podjęli się tej walki. Bohaterów z krwi i kości, nie żadnych eterycznych mimoz. Można wierzyć lub nie, że ich odwaga, mądrość i duma mają sens. Spotkanie z każdym z bohaterów przynosi czytelnikowi niepowtarzalne wzruszenie, jakie może się zdarzyć tylko w kontakcie z czymś niezakłamanym i nieskalanie czystym. Może w tym właśnie jest duch prawdziwej Białorusi, którego – jak pokazują reportaże Handzi – nie da się przekreślić ani wymazać, tak jak zrobiono to z sierpem i młotem na fladze oficjalnie uznawanej za symbol współczesnego państwa białoruskiego. Myliłby się ten, kto myślałby, że duch prawdziwej Białorusi jest mizerny i bez życia, jak defilada z okazji święta niepodległości Republiki Białoruś ustalonego uznaniowo, za to bez specjalnego uznania dla historii państwa znacznie starszej od Wielkiej Wojny Ojczyźnianej. Można płakać, można się śmiać. Po lekturze reportaży Hanny Kondratiuk można być pewnym, że gdyby z nieuznawanego przez władze herbu Pogoń wyszedł rycerz, uprzednio zsiadając z konia, odkrylibyśmy, że pod zbroją kryje się człowiek z uśmiechem na twarzy. Nawet, gdyby ten uśmiech miał być nieco ironiczny, a po rycerskim policzku toczyłaby się słona, białoruska łza. Tych w losach Białorusinów nie brakuje.

Całkiem jak i w naszym życiu. Prawda? Niezwykła to umiejętność śmiać się przez łzy i wierzyć, że kiedyś w końcu wyschnie ich źródło. Tak samo heroicznie jest wierzyć, że ziemia, nawet najbardziej zaniedbana, wyda kiedyś godny jej plon. Niemożliwe? Możliwe, skoro do św. Mikołaja Cudotwórcy modlą się zarówno wyznawcy prawosławia, jak i katolicyzmu, a arcybiskup z Miry Licyjskiej uznawany jest za patrona pojednania Wschodu z Zachodem. Kiedyś nie do pomyślenia byłaby wspólna modlitwa przedstawicieli obu Kościołów. Zupełnie niedawno, podczas nabożeństwa ekumenicznego o jedność chrześcijan, arcybiskup katolicki wręczył arcybiskupowi prawosławnemu… relikwie św. Mikołaja Cudotwórcy. Stało się tak na znak jedności obu kościołów, w cerkwi pod wezwaniem Świętego Ducha w Białymstoku, największej prawosławnej świątyni w Polsce. Prośby i podziękowania Bogu, wraz z innymi chórzystami, wyśpiewuje w nim Hanna Kondratiuk, autorka unikatowych reportaży, które bez nudy i patosu pokazują, że Białoruś i Białorusini mają swój własny głos. Posłuchajmy go. Choć w brzmieniu inny, w przekazie może okazać się bardzo podobny do naszego. Może pozwoli nam lepiej usłyszeć samych siebie. Sprawdźmy.

**Diana Nachiło**

## Мастацтва Гродзеншчыны




Наталля Маліноўская-Франке, *Забыты вернісаж. Творчасць мастакоў Гродзеншчыны 1860-х – 1930-х гг.*, Мінск 2012, сс. 190

Хаця кніга выйшла друкам у 2012 г., толькі гэтым летам удалося яе набыць падчас VI З'езду Беларусаў Сьвету – на прылаўку „Гарадзенскай Бібліятэкі". Добра здарылася, што кандыдацкая дысертацыя Наталлі Маліноўскай-Франке, абароненая ў 2009 г., даволі хутка (праз 3 гады) паказалася ў кніжным выглядзе – у цьвёрдай каляровай вокладцы, на добрай паперы, з 24 каляровымі рэпрадукцыямі карцінаў (не пры ўсіх пададзеныя іх сапраўдныя памеры). Прыемна так афармленую

кнігу ўзяць у рукі і з ахвотай пачаць яе чытаць.

Тое, што выклікала маю асабістую цікаўнасьць, гэта засяроджаньне тэмы на рэгіянальным вымярэньні. Цікава было ведаць, як аўтарка справілася з паняцьцем Гродзеншчыны (Гарадзеншчыны) як рэгіёну – як сучаснай вобласьці, даўняй Гродзенскай губерні ці кіравалася яшчэ нейкімі іншымі прынцыпамі. Вядома, што мастакі, непаседлівыя душы і прывязаць іх да аднаго месца цяжка. Аднак усё ж такі недзе яны нараджаюцца, недзе вучацца мастацтва і недзе ж маюць свае майстэрні, у якіх паўстаюць іхнія творы. Здаецца гэтыя тры крытэрыі найбольш акрэсьліваюць рэгіяналізм мастацтва, хаця вядома, што мастацкія творы існуюць перш за ўсё з увагі на іх унівэрсалізм, якім ёсьць у выпадку мастацтва прыгажосьць ды агульныя пэўныя каштоўнасьці. Таму і дзе яны выстаўляюцца ды захоўваюцца, неабыякава для рэгіянальнага вымярэньня мастацтва.

Аўтарка гаворачы пра Гродзеншчыну сягае да сярэднявечнага Гродзенскага княства, каб паказаць, што „Гродна і Гродзеншчына – своеасаблівы рэгіён Беларусі, у якім гісторыка-палітычная сітуацыя абумовіла спэцыфічны шлях фармавання нацыянальнай культуры, у тым ліку і мастацкай” (с. 22). Шкада, што аўтарка выразна не падкрэсьліла палітычнай прыналежнасьці Гродзенскага рэгіёну да I сусьветнай вайны і пасьля яе, калі рэгіён знаходзіўся ў розных дзяржавах – у расійскай імперыі і ў Польшчы. Не зусім ясная для мяне часавая мяжа 1918 г. у адным з раздзелаў (с. 59). Чым гэты год адметны ў мастацтве і ў рэгіянальным яго размежаваньні? Фактычна ў перыяд I сусьветнай вайны цяжка катэгарычна прымаць нейкія часавыя рамкі. Фармальна палітычна вызначыў іх Рыскі трактат 1921 г. Але калі ідзе пра мастацкае жыцьцё, здаецца, важнай падзеяй было заняцьце Вільні польскім войскам у красавіку 1919 г., што прычынілася да адкрыцьця Віленскага ўнівэрсітэту, а ў ім мастацкага факультэту, куды пацягнулася таленавітая моладзь, м. інш. Пётра Сергіевіч.



Майсей Ляйбоўскі *«Віленскі падворак»*; палатно, алей; 34 x 48; © Стасяк Анджэй/ Габрэйскі гістарычны інстытут, Варшава (A-1143).



Чытаючы кнігу маецца ўражаньне, што аўтарка да згаданага перыяду (1860-1939) адносіць сучаснае адміністрацыйнае паняцьце Гродзеншчыны (як Гродзенскай вобласьці), уводзячы ў рэгіён часткі гістарычнай Віленшчыны і паза ўвагай астаўляючы тыя часткі Гарадзеншчыны, якія пасьля II сусьветнай вайны апынуліся ў Польшчы.

Калі ўжо гаворка пра геаграфію, варта звярнуць увагу, што аўтарка пішучы пра канец XIX і пачатак XX ст.ст. карыстаецца тэрмінам „мастацтва Польшчы” (с. 57-58, 60, 69). Вядома, што такой дзяржавы тады не існавала, Польшча была падзеленая паміж Расеяй, Прусіяй і Аўстра-Венгрыяй.

Кніга вартасная перад усім тым, што ўводзіць „імёны многіх мастакоў, якія ў свой час адыгралі значную ролю ў мастацкім і культурным жыцці як Гродзеншчыны, так і ўсяго Віленскага краю”, а ў сувязі з рознымі палітычнымі і дзяржаўнымі пераменамі былі забытымі. Найбольш пра іх пішацца ў частках „Пошукі і здабыткі” (с. 61-96) і „Стылістычныя навацыі і аўтарскі стыль” (с. 127-144). Аўтарка найбольш месца адводзіць Марыі Гажыч (1860-1936) (с. 67-75, 140-142), Станіславу Жукоўскаму (1875-1944) (с. 75-82, 127-135), Луцыі Балзукевіч (1887-1976) (с. 82-85, 142-143), Казіміру Стабраўскаму (1869-1929) (с. 86-89). Прыклад гэтых, годных найбольшай увагі аўтаркі мастакоў, паказвае на розныя іхнія сувязі з Гродзеншчынай. Марыя Гажыч (ці не самае яркае адкрыцьцё аўтаркі?) нарадзілася ў сібірскай Вішэры, вучылася ў Варшаве ў школе Войцеха Герсана, у Акадэміі Жуліян у Парыжы, у Мюнхене. Працавала пераважна ў бацькоўскім маёнтку Сегянёўшчына на Ваўкавышчыне і ў маёнтку мужа Тапаляны на Пружаншчыне. Сёньня яе 6 абразоў рэлігійнай тэматыкі знаходзяцца ў гродзенскім кляштары назарэтанак.

Луцыя Балзукевіч, з вядомага

роду віленскіх мастакоў, у 1934 г. выканала для касьцёла ў Новым Двары (Шчучынскі раён) абраз Сьв. Губерта, які захоўваецца ў ім да сёньня і заінспіраваў аўтарку да пошукаў яшчэ з сярэдзіны 90-ых гадоў XX ст. „Тады гэты абраз зачараваў таямнічасцю, прыгажосцю, нейкай недасказанасцю і гэтым пазбавіў мяне спакою. Мае спробы знайсці якія-небудзь звесткі пра твор засталіся безвыніковымі. Мясцовы ксёндз сказаў, што ў касцёле была дзяржаўная камісія па аценцы каштоўнасцяў храма, але нічога каштоўнага знойдзена не было. На абраз таксама не звярнулі ўвагі. Але інтуіцыя падказвала, што твор мае не толькі гісторыка-культурную, але і мастацкую вартасьць. Проста не было ўсведамлення гэтай каштоўнасці. Таму і ўзнікла ідэя звярнуцца да вывучэння жывапіснай спадчыны Гродзеншчыны, да збору забытых ці неўсвядомленых каштоўнасцяў у творчасці жывапісцаў рэгіёну, якому лёсам было наканавана знаходзіцца на скрыжаванні культур, веравызнанняў і межаў. (...) Таму невыпадкова збор матэрыялу пачаўся менавіта ў Новым Двары, куды праз дзесятак гадоў я вярнулася разам з мастацтвазнаўцамі Яўгенам Шунейкам і Таццянай Маліноўскай. (...) Гэта быў пачатак цікавага падарожжа ў краіну мастакоўскіх твораў і лёсаў, знітаваных са складанай гісторыяй Бацькаўшчыны...” (с. 4).

У самым Гродне ў згаданы перыяд не паўстала свая мастацкая школа – горад знаходзіўся на правінцыі ці то расейскай, ці польскай дзяржавы. Выхадцы з Гродзеншчыны ды з іншых беларускіх земляў з мастацкімі схільнасцямі вымушаны былі вучыцца ў вядомых на той час мастацкіх школах Вільні, Варшавы, Кракава, Пецярбурга, Парыжа, Мюнхена, прывозячы адтуль своеасаблівыя стылі і моды.

У апошняй частцы кнігі аўтарка змясьціла кароткі біяграфічны слоўнік жывапісцаў Гродзеншчыны (1860-1930 гг.). Прадставіла ў ім 56 біяграфій (с. 145-163). Гэта і не так шмат, калі ўлічыць перыяд амаль 80 гадоў. Аналізуючы біяграфіі, аказваецца, што многія з іх нічым з Гродзеншчынай не былі звязаныя. Адносіцца гэта і да мастацкага факультэта Віленскага ўніверсітэта (УСБ) у міжваенны перыяд. Праўда, вучыліся ў ім выхадцы і з Гродзеншчыны, але вучыліся і ў Кракаўскай і ў Варшаўскай мастацкіх акадэміях. Пераглядаючы фонд мастацкага факультэт УСБ натрапіла я на студэнтаў звязаных з Гроднам, якіх чамусьці аўтарка абмінула пішучы пра мастацкі факультэт: Лідзію Байдзінскую (нар. 12.10.1906 г. у Варшаве, у 1926 г. закончыла жаночую гімназію Э. Плятэр у Гродне, беларуска па нацыянальнасьці, бацькі жылі ў Гродне па вул. Ерусалімскай), Анну Мізевіч (нар. 5.11.1906 г. у Блудэні к. Бярозы Гарадзенскай зямлі – як сама падавала ў 1927 г. паступаючы на мастацкі факультэт УСБ, беларуска па нацыянальнасьці), Зою Чарвякоўскую з Гродна (нар. 12.10.1908 г. у сяле Грэнад’ерскім на Закаўказьзі, закончыўшую Дзяржаўную жаночую настаўніцкую сэмінарыю ў Гродне, у 1929 г. падавала гарадзенскі адрас вул. Станіславоўская 5, беларуска па нацыянальнасьці). На жаль, нічога пра іх аўтарка не ўспамінае. Які быў іх лёс, можа варта было б пацікавіцца...

Фердынанд Рушчыц, народжаны і памерлы ў Багданаве на Ашмяншчыне, дэкан мастацкага факультэта УСБ хутчэй належыць гістарычнай Віленшчыне, чым Гродзеншчыне. Тое ж самае можна сказаць і пра Людаміра Сляндзінскага ды ягоных вучняў Козьму Чурылу, Міхала Сеўрука, Льва Дабжыньскага. Маёнтак апошняга Лоша, дзе ў 30-ыя гады адбываліся мастацкія пленэры, знаходзіўся на Віленшчыне, а ў выніку II сусьветнай вайны апынуўся па абодва бакі мяжы – частка ў Літве, частка – у Беларусі (зараз у межах Гродзенскай вобласьці – Астравецкі раён). Козьма Чурыла, якога аўтарка чамусьці заве Кузьмой, звязаны з Несьвіжам і з Віленшчынай. Прытым за слоўнікам польскіх мастакоў – Słownik artystów polskich i obcych w Polsce działających (zmarłych przed 1966 rokiem). Malarze, rzeźbiarze, graficy”, якога 7 тамоў выйшла на працягу 1970-2003 гадоў, пададзеныя памылковыя дадзеныя наконт яго адукацыі (быццам бы вучыўся ў Наваградку) і сьмерці (быццам бы ў Торуні). Гадамі шукаючы сьлядоў Козьмы Чурылы, апублікавала я ў „Нашай веры” (2008, № 3, с. 58-62) пра яго артыкул („Мастак з Крутога Берагу”), у якім усе недарэчнасьці былі выпраўленыя. Не ўспамінаю пра мае артыкулы пра яго апублікаваныя ў Польшчы і ў Літве. Некаторыя з іх можна нават знайсьці ў інтэрнэце. Дарэчы, такіх бібліяграфічных недахопаў у працы значна больш. І не справа тут у маіх публікацыях (пра Льва Дабжынскага, Язэпа Фарботку, Пётру Сергіевіча, Пятра Жынгеля, Антона Каменскага), якія нешта новага ўносяць у гэтыя творчыя біяграфіі, але і ў іншых, напр. Арсеня Ліса пра Паўла Южыка. Незразумела для мяне, чаму ў біяграфічным слоўніку не хапіла месца для Пётры Сергіевіча, якога аўтарка ўспамінае ў кнізе як аўтара сакральнага жывапісу і фрэскаў у касьцёлах Гродзеншчыны ды аўтара партрэта кс. Станіслава Глякоўскага (с. 143-144). У 30-ыя гады шмат ён працаваў на Гродзеншчыне і шмат што з яго прац асталося да сёньня на Гродзеншчыне. У 2005 г. яшчэ віселі яго вялізныя карціны (з 1936 г.) у касцёле ў Ваўкавыску. Здаецца, мне ўдалося паўстрымаць няўдалую рэстаўрацыю яго фрэскаў у касьцёле ў Солах, якія паводле тамашняга ксяндза маляваў „нейкі рускі багамаз”. У Смаргоні на хвалі рамонту касьцёлаў у пачатку 90-ых гадоў бязкарна былі замаляваныя яго працы на біблейскія тэмы. А ці захаваліся яго карціны

ў бернардынскім касьцёле ў Гродне? У Каменцы ў капліцы сясцёр міласернасьці захоўваюцца яго дзьве карціны Езуса Міласэрнага і Маці Божай. Шкада, што ў кнізе не хапіла месца на хоць адну рэпрадукцыю прац Пётры Сергіевіча, хаця б Маці Божай Поразаўскай, пра якую ўспамінае аўтарка (с. 143). Мастак праводзіў таксама рэстаўрацыйныя працы ў касьцёлах Гродзеншчыны і сабраў цікавыя экспанаты ў Беларускі музей імя Івана Луцкевіча ў Вільні. Нават з увагі на тое, што ў Гродзенскім гісторыка-археалягічным музэі захоўваецца яго карціна „Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў”, варта каб не забываць пра яго сувязі з Гродзеншчынай.

Сярод мастакоў XVIII ст. упамінаецца Антон Грушэцкі, толькі не як супраскі манах і мастак. Пра яго спадчыну на Гродзеншчыне цікавы артыкул напісаў Андрэй Рышкевіч ў „Roczniku Białostockim” за 1963 год. Манаграфія пра мастака напісаная перад II сусьветнай вайной Хведарам Ільляшэвічам, на жаль, загінула і трэба мець надзею, што некалі знойдзецца.

Сярод мастакоў пераломy XIX і XX ст. успамінаецца ў кнізе Антон Каменскі (с. 48, 51, 99), вядомы ілюстратар кніг Сянкевіча, Рэйманта, Ажэшкі і аўтар іхніх партрэтаў. На жаль, памылкова яго прозвішча падаецца як Камінскі. Аднойчы падчас наведваньня касьцёла ў Лунне на Гродзеншчыне я там даведалася пра сувязі з гэтай мясьцінай мастацкай сям’і Ромераў. У касьцёле знаходзіцца табліца ў гонар Эдварда Матэвуша (у кнізе чамусьці Мацей – с. 156) Ромера, які памёр 22 лютага 1900 г. у Лунне (жыў там пастаянна 3 апошнія гады жыцьця – глядзі: „Tygodnik ilustrowany”, nr 13, 31(18).03.1900 г., с. 248). Нават пабачыла там абраз сьв. Ганны. Ці не Ромера яна? Ніхто не быў у стане адказаць на гэтае пытаньне. Ці яна далей захоўваецца ў касьцёле? Чамусьці аўтарка не ўспамінае Лунны, толькі Каралінава (у сапраўднасьці на Віленшчыне, хаця зараз у межах Беларусі). Аказваецца, у Польскім Слоўніку Біяграфічным аўтарка яго біяграму чамусьці Лунну замяніла на Луніну і зьмясьціла яе ў межах Ігуменскага павету. І відаць Натальлі Маліноўскай не хапіла дапытлівасьці, каб пашукаць яго сьлядоў на Гродзеншчыне. А хапіла з’езьдзіць у касьцёл у Лунне і адкрылася б аўтарцы яшчэ адна ці не найбольш заслужаная для Гродзеншчыны мастацкая постаць...

У кнізе ўпамінаецца неаднойчы Хелена Ромер, толькі чаму яе імя пішацца праз „Х”, а не „Г” (с. 42, 93). Маю ўражаньне, што пры пісаньні імён ці прозвішчаў, у якіх на польскай мове ёсьць гук „h”, перапісваецца яго адвольна на беларускай мове – як „г” або „х”. І атрымліваецца Х. Куна замест Генрык Куна, Е. Мэхофер замест Е. Мэгофэр, Е. Хопэн замест Ежы Гопэн, Уласціміл Хофман замест Гофман, хаця -- Язэп Горыд (нар. у Адэссе, а не ў Вільні; загінуў пад Варшавай, не пад Вільняй) ці Вейсенгоф Генрых (не Хенрых). Мабыць, гэта дробязь, але ж на маю думку пасьлядоўнасьці тут не хапае.

Чытаючы кнігу варта зазіраць у спасылкі на крыніцы. І тут я ў многіх месцах расчаравалася – аўтарка цытуе „Tygodnik Illustrowany”, „Kurier Codzienny”, „Kraj”, „Kurier Warszawski”, „Kurier Poranny”, а ў спасылцы што другое. Гэта ўсё не так цяжка праверыць, бо гэтыя газеты і часопісы даступныя ў бібліятэках.

У сьпісе выкарыстаных крыніц (с. 166-190) прадстаўленыя 151 пазіцыі кірылічнага шрыфта (беларускамоўныя і рускамоўныя) і 174 – лацінскага (найбольш польскамоўных). Сярод іх і архіўныя матэрыялы, і манаграфіі і артыкулы, і альбомы, і каталогі з выставак. Шкада, што аўтарка іх не сістэматызавала паводле такога парадку. Сумненьні выклікае алфавітная чарговасьць спісу крыніц лацінскім шрыфтам: Garlińska перад Fałtynowicz, Jodkowski перад Inspiracje, Marian Bohusz перад Maria Gażycz, Ryszkiewicz перад Ruhberg, Tomalska перад Tatarkiewicz, Wystawa перад Wölfflin ітд. Бібліяграфію можна было б дапоўніць яшчэ каталёгамі выставак і асобнымі публікацыямі.

Нягледзячы на ўсе заўвагі, з кнігай варта пазнаёміцца, хаця б з увагі на шмат цікавых зьвестак з мастацкага жыцьця ў 1860-1939 гг., а без творчых здабыткаў мастакоў „не можа быць поўнага ўяўлення пра жывапіс Гарадзеншчыны і Беларусі”.

**Лена Глагоўская**



Зых Буйноўскі *«Замак Стэфана Баторыя»*, 1926; папера, наклееная на картон, алей; 21 x 49; аддзел Падляскага музея ў Тыкоціне (МТН 10-97).



**Нядаўна ў Карэлічах сустрэў я настаўніка-пенсіянера, мясцовага літаратара і краязнаўцу Івана Іванавіча Вярбіцкага. Падчас размовы спытаў у яго пра лёс беларускага паэта, вязня сталінскіх лагераў з Навагрудка Самсона Пярловіча. „Я быў добра знаёмы з Самсонам Пярловічам. Ён быў асуджаны за Саюз вызвалення Беларусі. Яго выдаў правакатар з Баранавіч Алесь Бажко, які ў тыя першыя пасляваенныя гады быў супрацоўнікам баран...**



**Tak oto znalazłem się tutaj. Cicha wioska i jej cisi mieszkańcy gasnący pomału jak świeczki na wietrze pod stałym, miarowym podmuchem. Płomień dogasa, ale walczy, jakby siłą spracowanych rąk i nóg zapierano drzwi przed dobijającą się kostuchą. Mocniejszy powiew tego wiatru, tożsamy z wdarciem się kostuchy do sieni może uciszyć ją na zawsze, lecz póki co trwa jeszcze w swym upartym boju. A nie jedna to taka świeczka, nie jeden dom i nie j...** (dalej w następnym numerze)

*Czasopis*

Nr indeksu 355038, ISSN 1230-1876.
**Wydawca**: Stowarzyszenie Dziennikarzy Białoruskich.
**Adres redakcji**:
Białystok, ul. Lipowa 4/221.
**Adres do korespondencji**:
„Czasopis”, 15-001 Białystok, skr. p. 262. **E-mail**: redakcja@czasopis.pl
http://czasopis.pl
Tel. (85) 653 79 66

**Redaktor naczelny**: Jerzy Chmielewski, tel. 502 661 316.
**Zespół redakcyjny**: Wiesław Choruży, Helena Kozłowska-Głogowska, Sławomir Iwaniuk, Tomasz Sulima (sekretarz redakcji), Jerzy Sulżyk.
**Stali współpracownicy**: Piotr Bajko (Białowieża), Siarhiej Czyhryn (Słonim), Tamara Bołdak-Janowska (Olsztyn), Agnieszka Goral (Lublin), Mirosława Łuksza, Janusz Korbel (Białowieża), Aleksander Maksymiuk, Jan Maksymiuk (Praga), Michał Mincewicz (Orla), Dorota Wysocka.
**Druk**: Orthdruk, Białystok.

**Prenumerata**: Odpowiednio do liczby zamawianych egzemplarzy i okresu prenumeraty należy wpłacić wielokrotność 4 zł na rachunek: Stowarzyszenie Dziennikarzy Białoruskich: Bank PEKAO S.A. Białystok 30 1240 5211 1111 0000 4928 9343.




Беларускі грамадска-культурны часопіс, прысвечаны пытанням сучаснасці, гісторыі, літаратуры і мастацтва, месца чалавека ў свеце. Форум думкі беларусаў і ўсіх тых, каму блізкая беларуская тэматыка. Пазіцыі аўтараў тэкстаў не заўсёды адпавядаюць пазіцыям рэдакцыі. Не публікуюцца матэрыялы, якія прапагандуюць камуна-фашызм, расізм, нацыянальную варожасць.
Artykuły i listy publikowane są – o ile autor nie życzy sobie inaczej – w języku oryginału: po polsku lub białorusku. Redakcja zastrzega sobie prawo do skrótów, zmian tytułów i redagowania nadesłanych tekstów.

Materiałów nie zamówionych redakcja nie zwraca.
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*

Numer złożono 28 października 2013.